ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 23 (2321) 10 чэрвеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

ПЕРШАЯ КНІГА ПРА КУЛЬТУРУ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## "ЧАС ДУХОЎНАГА ПАЯДНАННЯ..."

Няўмольны лёс раскідаў шмат каго з беларусаў па розных кутках планеты. Доўгі час тэма беларускай эміграцыі замоўчвалася, быццам бы яе ўвогуле не існавала. Тым самым адзіны народ падзяляўся на два варожыя лагеры, па жывому разрывалася яго гісторыя і культура.

Апошнім часам у афіцыйных адносінах да беларускага замежжа адбыліся пэўныя станоўчыя зрухі. Спраўдзілася мара нашых далёкіх суайчыннікаў наведаць Бацькаўшчыну, пабачыць сваякоў і блізкіх. Жыхары Беларусі таксама атрымалі магчымасць пазнаёміцца з жыццём беларускай дыяспары. Пры гэтым узаемныя сувязі ўсё часцей перарастаюць межы прыватных сустрэч і набываюць высокі дзяржаўны ўзровень. Сведчанне гэтаму — удзел прадстаўнікоў Беларусі ў XIX і XX Сустрэчах беларусаў паўночнай Амерыкі ў Кліўлендзе і Нью-Брансвіку, актыўная праца суайчыннікаў з розных краін у Першым міжнародным кангрэсе беларусістаў і інш.

Замацаванне навуковага і культурнага супрацоўніцтва, пашырэнне звычайных кантактаў паміж людзьмі, безумоўна, узбагачаюць абодва бакі. Па сутнасці аднаўляецца парушаная справядлівасць, народу вяртаецца яго гістарычная памяць. Відавочна, што матэрыяльная і духоўная культура беларускага замежжа даўно вымагае навуковага вывучэння і асэнсавання. Аднак рабіць гэта раней было проста немагчыма з-за жорсткіх ідэалагічных абмежаванняў. Мы жылі ў замкнёнай прасторы, штучна збядняючы свой духоўны свет. Нарэшце гэта інфармацыйная блакада парушылася. У перыядычных выданнях сталі з"яўляцца, праўда, пакуль што спантанна, матэрыялы аб буйных дзеячах беларускай эміграцыі — Наталлі Арсенневай, Масеі Сяднёве, Вітаўту Кіпелі, Янку Золаку, Міхасю Кавылю,

(Заканчэнне на 6-й стар.).



**Назавём кожнага паіменна: пісьменнікі Алесь Звонак, Сяргей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў, Яраслаў Пархута, Васіль Сёмуха, Алесь Жук, гісторык Мікола Ермаловіч, мастакі Эдуард Агуновіч, Мікола Селяшчук; кампазітар Галіна Гарэлава; артысты Купалаўскага тэатра Уладзімір Кін-Камінскі, Уладзімір Кур'ян, Віктар Манаеў і рэжысёр Мікола Пінігін; журналіст Алесь Уліцёнак. Ім былі прысуджаны Дзяржаўныя прэміі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Гэта першыя лаўрэаты незалежнай Беларусі. Толькі 31 мая 1993 года Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уручыў прэміі — трэба было амаль паўгода чакаць, пакуль зробяць дыпломы і знакі лаўрэатаў новага ўзору — у адпаведнасці з сімволікай нашай дзяржавы.**

**НА ЗДЫМКУ: Станіслаў ШУШКЕВІЧ з першымі лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій незалежнай Рэспублікі Беларусь.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**



**Шасцікласнік Ратамскай школы-інтэрната Дзіма КРЫВІЦКІ. (Заканчэнне фотарэпартажу "Я зрабіў гэта сам" на 3-й стар.).**

МАСТАЦКІ ПЛЁН ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ МІСІІ

## ГАЛЬЯШ ПЕЛЬГРЫМОЎСКІ І ЯГО ПАЭМА "ГУТАРКА Ў МАСКВЕ"

У другой палавіне XVI стагоддзя беларускія землі як інтэгральная частка Вялікага Княства Літоўскага ўваходзілі ў склад Рэчыпаспалітай, культура якой у сваім развіцці арыентавалася на традыцыі лацінска-каталіцкага Захаду. Тая акалічнасць накладвала свой адбітак на ўсё духоўнае жыццё насельніцтва Беларусі. Гэта быў перыяд, калі шырокім фронтам разгортвалася наступленне на мясцовыя традыцыі, мову, рэлігію. Яшчэ ў пачатку і нават у сярэдзіне стагоддзя — у дзейнасці Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, многіх іх сучаснікаў — беларуская мова з'яўлялася на практыцы асноўнай ці амаль выключнай, а ўжо ў канцы стагоддзя польская мова пранікала ўсё больш актыўна ва ўсе сферы культурнага і дзяржаўна-палітычнага жыцця.

Праўда, Статут Вялікага Княства Літоўскага ў 1588 годзе яшчэ заканадаўча замацоўваў дзяржаўны характар беларускае мовы, але ўжо сама назва "Русь", "рускі" выцяснялася тэрмінамі "Літва", "літоўскі", супраць праваслаўя ("схізмы") вялася інтэнсіўная кампанія, а так званыя "дызуніты" (спрадвечна праваслаўныя жыхары нашай зямлі) адчувалі сябе ўсё больш няўтульна на сваёй радзіме. Да таго ж беларуская мова непрыкметна пераходзіла на лацінскі шрыфт.

На рубяжы XVI і XVII стагоддзяў пакуль што яшчэ раўнапраўнымі з'яўляліся і беларуская, і польская мовы. Побач з імі захоўвала свае пазіцыі і латынь. Але на першы план на тэрыторыі Беларусі паскоранымі тэмпамі пачала вылучацца польская мова.

Вось у такі пераломны перыяд разгортвалася літаратурная творчасць і палітычная дзейнасць Гальяша Пельгрымоўскага — пісьменніка, пра якога да апошняга часу мы практычна не ведалі нічога, бо ён не згадваецца ні ў Карскага, ні ў Ластоўскага, ні ў Дабрыніна, ні ў акадэмічных навуковых курсах гісторыі беларускае літаратуры, не кажучы пра дапаможнікі для вышэйшых навучальных устаноў або школьныя падручнікі. А між тым ён па праву павінен лічыцца найбольш буйным беларускім свецкім пісьменнікам пасляскарынінскага перыяду і да прыходу Сімяона Полацкага.

Пра жыццёвы шлях Гальяша Пельгрымоўскага найбольш падрабязна апавядае "Польскі біяграфічны слоўнік". Адтуль мы даведваемся, што ён паходзіў з Літвы і, мабыць, вучыўся ў нейкай кальвініcцкай школе, дзе атрымаў грунтоўную адукацыю. Пра ягоную эрудыцыю можа сведчыць тое, што Стэфан Баторый прызначыў яго каралеўскім сакратаром.

Гальяш Пельгрымоўскі ўдзельнічаў у Лівонскай вайне, узначальваючы конны атрад, які налічваў 100 чалавек. У жніўні-верасні 1581 года прымаў непасрэдны ўдзел у рэйдзе аб'яднаных літоўскіх сіл пад камандай Крыштофа Радзівіла і Філона Кміты ў раён Ржэва і Холма. У чэрвені 1583 года па даручэнні караля ездзіў у Маскву да Івана IV з лістом і падарункамі. У лютым 1586 года заняў пасаду пісара Вялікага Княства Літоўскага.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА*

## АКЦЫЯ "НАДЗЕЯ-ЭКСПРЭС II"

**У агульнай скарбонцы дабрачынных ахвяраванняў рэгіёнаў Беларусі, пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, важнае месца займае дзейнасць арганізацыі "Сіціхоўп Інтэрнэшнл". Яе прэзідэнт Пол Моар (разам з жонкай Шарон Моар і сынам Полам Моарам-малодшым) праводзяць у гэтыя дні акцыю "Надзея-Экспрэс П", якая з"яўляецца 32-й па ліку місіяй міласэрнасці амерыканскіх ахвярадаўцаў на Беларусі. У межах аперацыі ўжо дастаўлена ў нашу рэспубліку 12,5 тоны гуманітарнай дапамогі (лекі, прадукты дзіцячага харчавання, алей, мука) на суму 35 мільёнаў долараў. "Сіціхоўп Інтэрнэшнл" другі раз была выбрана Дэпартаментам сельскай гаспадаркі ЗША для ажыццяўлення акцыі. З беларускага боку самы непасрэдны ўдзел у ёй бярэ Савет Міністраў РБ і ягоны Аддзел гуманітарнай дапамогі. Прадстаўнік аддзела М.Собаль падкрэсліў на прэс-канферэнцыі, што беларускі ўрад зрабіў усе неабходныя захады, а таксама выпрацаваў неабходныя механізмы кантролю, каб дапамога дайшла да тых, хто мае ў ёй найпершую патрэбу. Дарэчы, 1/3 частка будзе размеркавана бясплатна, 2/3 пойдуць у гандлёвую сетку па даступных для насельніцтва цэнах.**

*ЗВАРОТ ДА ПАТРЫЁТАЎ*

## У АБАРОНУ М. СТАТКЕВІЧА

**84 вядомыя беларускія палітыкі, навукоўцы, грамадскія дзеячы, сярод якіх — 56 народных дэпутатаў Беларусі, падпісалі Зварот да грамадзян Беларусі. Прыняты ён у сувязі з рэпрэсіямі супраць афіцэраў — сяброў БЗВ, у прыватнасці, супраць звальнення з войска падпалкоўніка М. Статкевіча.**

**Асаблівую нянавісць, гаворыцца ў звароце, антыбеларускіх сіл заслужыла Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Гэты грамадска-патрыятычны рух узяў на сябе місію ў цяжкіх умовах, нярэдка ў непрыхільнай да беларушчыны атмасферы ў сучасным войску прапагандаваць уласным прыкладам беларускі дзяржаўны патрыятызм, вяртаць у войска беларускую мову і традыцыі, тым самым пераадольваючы адчужанасць паміж новастворанай беларускай арміяй і беларускім народам. БЗВ падтрымлівае прынятую Вярхоўным Саветам па прапанове Міністэрства абароны дактрыну ўзброенага нейтралітэту, а значыць, выступае супраць спробаў насуперак гэтаму зацягнуць Беларусь у ваенны саюз.**

**Але замест таго каб падтрымаць і развіць шматлікія ініцыятывы БЗВ, што было б натуральным для войска маладой незалежнай дзяржавы, Міністэрства абароны па загаду кіруючай наменклатуры робіць усё, каб расправіцца з актывістамі згуртавання. Ужо беспадстаўна звольнены з войска многія актывісты БЗВ. І вось на падставе незаконнага заключэння аб нібыта палітычным характары дзейнасці БЗВ звольнены з Узброеных Сіл старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч — "за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра".**

**У войску працягваюць цкаваць патрыётаў Беларусі. У той жа час спакойна даслужваюць хабарнікі і зладзеі, а некаторыя з іх займаюцца яшчэ і палітычнай дзейнасцю, якая вайскоўцам забаронена законам.**

**Сапраўдную мэту звальнення Міколы Статкевіча аўтары зварота бачаць у тым, каб запалохаць вайскоўцаў, не пакінуць сумненняў у антыбеларускім курсе вайсковага кіраўніцтва краіны. Звальненне Статкевіча — яскравы прыклад беззаконнасці і парушэння правоў чалавека, якія пануюць у беларускім войску і наогул у Беларусі.**

*ВАРВАРСТВА*



**Нават варварствам назваць цяжка тое, што зрабілі з царквой у вёсцы Красно (на здымку), якая размешчана на стыку двух раёнаў — Хойніцкага і Чарнобыльскага. Сюды збіраліся прыхаджане з усіх навакольных вёсак. Нават Чарнігаўская ўступала гэтай царкве па прыгажосці і багаццю ікон.**

**3 мая 1986 года вёска Красно, якая знаходзілася за 8 кіламетраў ад Прыпяці, была поўнасцю выселена. Браць з сабой не дазвалялася нічога...**

**Сёння на дзвярах царквы няроўным бабульчыным почыркам выведзена: "Дай Бог, каб уваскрэс наш храм і наша сяло". Людзі да сёння вераць у цуд. Можа, Гасподзь і пачуе...**

*ПРАЗ ПАЎСТАГОДДЗЯ*

## УРУЧАНА Ў СІДНЕІ

**Ордэн Айчыннай вайны і медаль "Партызан Беларусі" былі ўручаны ў Сіднеі Л. Бярковічу, які паўстагоддзя назад партызаніў на тэрыторыі Беларусі, а цяпер жыве ў Аўстраліі і вядомы як Ляон Берк.**

**Амаль два гады яшчэ малады ўрач знаходзіўся ў партызанскім атрадзе "Савецкая Беларусь". Брыгада імя Панамарэнкі, якой камандаваў В. Уласаў, што жыве цяпер у Самары, вяла баявыя аперацыі ў Брэсцкай вобласці, у наваколлях Косава, Слоніма, Баранавіч. Л. Бярковіч звычайным нажом рабіў хірургічныя аперацыі, у тым ліку ампутацыі, адзінай анестэзіяй пры якіх былі дзве шклянкі гарэлкі. А калі была патрэба, ён разам са сваім атрадам пускаў пад адхон паязды акупантаў, удзельнічаў у засадах.**

**Л. Бярковіч застаўся ў жывых. Лёс закінуў яго ў Аўстралію. Цяпер Ляону Берку 78 гадоў. Ён жыве ў Сіднеі і працягвае займацца прыватнай медыцынскай практыкай. У мінулым годзе тут выйшла яго кніга "Наканавана выжыць", большая частка якой прысвечана партызанскай барацьбе.**

*"Па цэламу шэрагу спецыяльнасцей, у галіне прыродазнаўчых, дакладных навук наша адукацыя не горшая за еўрапейскую. Як фізік, я асабіста блізка знаёміўся з праграмамі па фізіцы амерыканскай, французскай, нямецкай вышэйшых школ, іх нормамі выкладання і магу сказаць, што мы ў нечым тут і выйграём. Што ж датычыцца гуманітарных спецыяльнасцей, то мы яшчэ не пазбавіліся ў поўнай ступені ад заідэалагізаванасці нашай адукацыі.*

*Да таго ж, ні для кога не з'яўляецца асаблівым сакрэтам, што ў нас ёсць проста слабыя ВНУ. Трэба пераадольваць прадузятае меркаванне: Мінск — цэнтр, усё астатняе — перыферыя. Нам проста неабходна развіваць рэгіянальныя цэнтры вышэйшай адукацыі. Як гэта зрабіў, напрыклад, Наваполацк. Політэхнічны інстытут гэтага горада мае ўсе шансы стаць адной з самых прэстыжных ВНУ рэспублікі".*

*В. ГАЙСЁНАК, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

*ДОМ ДЛЯ АДЗІНОКІХ*

## АЖ НЕ ВЕРЫЦЦА

**На Аршанскім ільнокамбінаце пачата будаўніцтва не зусім звычайнага дома. Ён будзе прызначаны для пенсіянераў, былых работнікаў прадпрыемства, якія па збегу акалічнасцей засталіся адзінокімі.**

**Навасёлы атрымаюць звычайныя ордэры. На першым паверсе дома размесціцца медыцынскі пункт, куды ў любы час сутак можна звярнуцца па дапамогу. Раніцай і вечарам медработнікі стануць рабіць медыцынскі абход жыхароў. Усё медыцынскае абслугоўванне будзе бясплатным.**

**У новым будынку адкрыюцца бібліятэка, магазін, буфет і сталовая.**

**Дом размешчаны ў вельмі маляўнічым месцы ля ўваходу ў парк. Карацей, аршанскі эдэм.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ВЯЛІКАЯ група вядомых дзеячаў навукі, культуры і мастацтва Літвы выступіла са зваротам да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі Альгірдаса Бразаўскаса. Кіраўнікоў дзяржаў-суседзяў, беларускі і літоўскі народы заклікаюць да аб'яднання высілкаў і супрацоўніцтва ва ўсіх сферах жыцця.

ЖОНКІ ваенных лётчыкаў заблакіравалі аэрадром у Лідзе і перашкодзілі вываду баявой тэхнікі з Беларусі ў Расію. Нават начальнік ваеннага гарнізона не змог вылецець на пасяджэнне ваеннага савета. На ўзлётна-пасадачнай паласе жанчыны маюць намер разбіць палатачны гарадок і нават аб'явіць галадоўку, каб хоць такім чынам прыцягнуць увагу да праблем падраздзялення, якое хочуць перадаць Расіі.

СТВОРАНЫ арганізацыйны камітэт для склікання і правядзення III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі. Яна павінна адбыцца 6-7 ліпеня 1993 года і даць палітычную ацэнку II Усебеларускай канферэнцыі (1925 года), а таксама разгледзець цяперашняе палітычнае становішча.

ПРАФЕСАР гродзенскага медыцынскага інстытута Віктар Сцянько аб'явіў галадоўку. На гэты крок супрацоўніка кафедры факультэцкай хірургіі падштурхнула нядаўняе рашэнне вучонага савета інстытута, якое, па словах прафесара, яго дыскрэдытуе. В. Сцянько выступае за стварэнне ў Гродне цэнтра лазернай хірургіі, супраць карупцыі і пратэкцыянізму.

НЕКАЛЬКІ тыдняў "акупіравалі" вернікі касцёл Святога Роха ў Мінску, дзе пакуль месціцца малая зала Белдзяржфілармоніі, дамагаючыся вяртання касцёла католікам. Цяпер кіраўніцтва філармоніі выставіла парафіі патрабаванне: аплаціць сарваныя "акупантамі" арганныя канцэрты. Рахунак немалы — 300 тысяч рублёў.

БУДЫНАК былой школы ў вёсцы Мар'іна Добрушскага раёна, выкуплены мясцовай царквой, хутка набудзе іншае прызначэнне. Тут будзе адчынены першы на Гомельшчыне жаночы манастыр.

МЯРЗОТНАЯ гісторыя здарылася ў віцебскай школе-інтэрнаце для дзяцей з замаруджаным псіхічным развіццём. Іх выхавацелі і педагогі бессаромна расцягнулі па хатах гуманітарную дапамогу, што прыбыла з Германіі для пакрыўджаных лёсам дзяцей. Ім дасталася толькі па 3 шакаладкі. Астатняе ж — вопратка, абутак, пасцельная бялізна — пазабіралі сабе дарослыя дзядзькі і цёткі.

РЭЗКАЕ пахаладанне ў канцы мая, якое наступіла пасля небывалай спёкі, прынесла вялікую шкоду. Такія замаразкі, як сёлета, былі ў Беларусі толькі ў 1895 годзе. Асабліва пацярпела Віцебская вобласць, дзе начная тэмпература дасягала 6 градусаў марозу. Прыйдзецца нанава адсяваць збажыну, садзіць бульбу на 15 тысячах гектараў.

*НОВАЯ ТАКТЫКА*

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ПАРТЫЯ — БНФ

**Адбыўся III з'езд БНФ "Адраджэнне". Праходзіў ён у сталічным тэатры Янкі Купалы, што дало падставу яго ўдзельнікам праводзіць аналогіі з першым Усебеларускім кангрэсам, які 75 год назад у гэтым жа будынку абвясціў БНР. На з'ездзе БНФ прысутнічала 566 дэлегатаў, з іх 402 служачыя, 74 рабочыя, 13 сялян, 6 студэнтаў, 1 прадпрымальнік, 1 фермер, 6 пенсіянераў.**

**Быў выслуханы і актыўна абмеркаваны даклад З. Пазьняка, зацверджана новая праграма БНФ, прынята новая тактыка фронта. Улічваючы набліжэнне новых выбараў у парламент рэспублікі, з'езд адкрыта заявіў аб канстытуцыйнай барацьбе за ўладу. З гэтай мэтай у рамках III з'езда БНФ адбыўся і ўстаноўчы з'езд партыі БНФ. Менавіта пад яе сцягам і пойдзе барацьба за ўладу на выбарах. Старшынёй партыі БНФ абраны Зянон Пазьняк. Ён жа адначасова і старшыня Беларускага народнага фронта.**



ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ

# ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ПАЧУЦЦЁ ПАДМАНУ

**Саюз моладзі Беларусі сёння найбольш масавая маладзёжная арганізацыя ў рэспубліцы, зараз яна налічвае 200 000 членаў. Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з першым сакратаром Цэнтральнага камітэта гэтай арганізацыі Алянсандрам ФЯДУТАМ.**

**— Саюз моладзі Беларусі знаходзіцца ў тым жа будынку, дзе некалі размяшчаўся Цэнтральны камітэт Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі. Скажыце, ад былой арганізацыі вы атрымалі ў спадчыну толькі апошнія словы яе назвы і будынак ці нешта большае! І якія ўвогуле мэты вы ставіце перад сабою!**

— А ці трэба адразу ад усяго адмаўляцца і сцвярджаць, што ў былым камсамоле ўсё было безнадзейна дрэнна? Ад старой сістэмы, між іншым, захаваўся вопыт, і, ствараючы новую структуру, можа ёсць сэнс пазбавіцца ад дрэннага і выкарыстаць лепшае? Што датычыцца мэтаў, то галоўная з іх — сацыяльная абарона моладзі, а таксама выяўленне інтарэсаў і стварэнне ўмоў для рэалізацыі здольнасцяў членаў гэтай арганізацыі. Аднак пытаннямі сацыяльнай абароны павінна займацца дзяржава, а мы — пры ёй выконваць функцыі авадня. Памятаеце, Сакрат гаварыў пра сябе, што ён у Афінах авадзень, які джаліць і не дае супакоіцца.

**— Але ж, як вядома, Сакрат дрэнна скончыў, і яму давялося піць цыкуту, а Фелічы Рывáрыса расстралялі. Вы рызыкуеце...**

— Гэта некаму трэба рабіць, бо наша дзяржава практычна арыентавана супраць моладзі, а законы, якія прымае беларускі парламент — антымаладзёжныя, уключаючы Закон аб асновах маладзёжнай палітыкі.

**— Растлумачце, калі ласка, і абгрунтуйце ваша сцвярджэнне.**

— Узроставая мяжа маладосці ва ўсім цывілізаваным свеце — 30 год. Да гэтага веку чалавек лічыцца маладым, толькі ў 30 год ён можа ўвайсці ў сферу паўнацэннага грамадскага і сацыяльнага жыцця. У нас тая ж верхняя мяжа маладосці — 25 год. Што гэта значыць? Мяркуйце самі: хлопец скончыў школу, год адпрацаваў, пайшоў у войска, вярнуўся адтуль, паступіў у вышэйшую навучальную ўстанову, скончыў яе — і ён ужо не карыстаецца ніякімі льготамі, бо яму якраз споўнілася 25 год. Ідзём далей. Суб'ектам дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі з'яўляюцца маладыя сем'і. Маладой лічыцца сям'я, у якой абодвум яе членам не споўнілася 25 год. Нават калі дваццаціпасцігадовы ажэніцца з дваццацічатырохгадовай — такая сям'я ўжо не будзе лічыцца маладой і права на льготную маладзёжную пазыку мець не будзе. Пазыку ж гэтую павінен даваць камерцыйны банк, а некалькі пазней яна пагашаецца дзяржавай. Але ж які нармальны камерцыйны банк будзе выдаваць гэтыя грошы, калі за тыдзень рубель "худзее" на 15 капеек! Мала таго, няма ніякіх гарантый, што дзяржаўны банк будзе вяртаць крэдыт... Далей. Зараз ідзе прыватызацыя прадпрыемстваў. Калі дзяржава дае "дабро" на прыватызацыю, адразу выяўляюцца два бакі, якія аднолькава зацікаўлены ў тым, каб атрымаць найбольшую частку акцый: гэта адміністрацыя і працоўны калектыў, на чале якога стаіць ці прафком, ці савет працоўнага калектыву. Чые інтарэсы яны абараняюць? Ну, натуральна, тых, хто даўжэй працаваў, у каго вышэйшая кваліфікацыя, інакш кажучы, ветэранаў. І атрымліваецца, што тыя, хто сёння вучыцца ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах і заўтра прыйдзе на прадпрыемства, ужо свайго кавалка ад гэтай уласнасці не атрымаюць. А старыя, якія пойдуць на пенсію, пераўтворацца ў ранцье, якія будуць жыць за кошт дывідэндаў з акцый. Я лічу, што мы стаім на мяжы новага сацыяльнага выбуху, бо, калі моладзь зразумее, што яе зноў падманулі, яна гэтага не даруе. Крый мяне Божа ўбачыць, як натоўп пэтэвушнікаў з каменнямі выйдзе на вуліцы. І не трэба забывацца пра тое, што ў Кіеве студэнцкія хваляванні знеслі двух кіраўнікоў дзяржавы — спачатку Масола, потым — Фокіна.

**— Якія палітычныя мэты ставіць перад сабой Саюз моладзі!**

— Наша арганізацыя афіцыйна дэпалітызавана. Адзіная галіна палітыкі, якой мы займаемся, — гэта сацыяльная палітыка.

**— А як выглядае ваша камерцыйная дзейнасць! Ці не атрымліваецца так, што яна выходзіць на першае месца!**

— А як вы лічыце: каб займацца дабрачыннасцю, можа спярша трэба зарабіць грошы? Вас, напэўна, здзівілі гэтыя цацкі — сабакі і сланы — у маім кабінеце. Справа ў тым, што ў нас тут адбудзецца аўкцыён на карысць дзяцей-інвалідаў. Мы збяром маладых бізнесменаў, якія ў свой час выйшлі з камсамола, яны ўмелі працаваць, стварылі свае прадпрыемствы. Аўкцыён буду весці я, вазьму за вуха мядзведзя і скажу: гэтую цацку зрабіла дзяўчынка Маша ці Валя, ёй столькі і столькі год, у яе цяжкае захворванне. Пачатковая цана — тры тысячы. Хто больш? А грошы гэтыя пойдуць не ў нейкі фонд, не на разліковы рахунак дзіцячага дома, а канкрэтнаму хлопчыку, які праходзіць побач з кіёскамі са "Снікерсамі" і не можа іх купіць, ці дзяўчынцы, якой вельмі хочацца прыгожа апранущца, а яна ўсё жыццё правяла ў дзіцячым доме, дзе на ўсіх усё аднолькавае... З гэтых грошай да нашых рук не прыліпне ні капейкі...

**— Аляксандр Іосіфавіч, як бы вы вызначылі сённяшні настрой моладзі! Быццам пасля залішняй палітызацыі наступіла нейкая апатыя і абыякавасць!**

— Пасля першай сусветнай вайны салдаты вярнуліся дамоў "маладыя і пазбаўленыя веры, як шахцёры з шахты, якая абвалілася", і ўбачылі, што нічога не змянілася і жыць няма дзеля чаго. І атрымалася якраз пакаленне рэмаркаўскіх хлопчыкаў, якія плакалі па начах, "зрабіліся жорсткімі і не давяралі нікому, акрамя бліжэйшага сябра, не верылі ні ў што, акрамя такіх ніколі не падманваўшых нас сіл, як неба, табак, дрэвы, хлеб і зямля"... Я скончыў ВНУ ў 1986 годзе і ўвайшоў у свядомае жыццё на хвалі гарбачоўскіх рэформаў. Маё пакаленне — гэта пакаленне рэмаркаўскіх хлопчыкаў, якія ўжо нікому не павераць, бо нам абяцалі, што "мы ўсё зменім, усё будзе лепш, спакойна, мірна і цывілізавана..."

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ДЗЯРЖАЎНЫЯ ДЗЕЦІ

# "Я ЗРАБІЎ ГЭТА САМ"

... Хлопчык трымаў у руках драўляную хлебніцу. Ён усміхаўся так шчыра, што прайсці міма і не пахваліць яго было проста немагчыма. Тым больш, што хлебніца — хатка на курыных ножках — была сапраўды добрая.

У Ратамскай дапаможнай школе-інтэрнаце жывуць і вучацца 160 хлопчыкаў і дзяўчынак з парушэннямі ў псіхічным развіцці. Анамальныя дзеці, так іх яшчэ называюць. Ці варта гаварыць пра тое, якая гэта непамерная праца — пасяліць радасць і веру ў душы хаця б аднаго такога дзіцяці, навучыць яго самаму неабходнаму, даць спецыяльнасць.

Сацыяльная арыентацыя — гэта галоўнае, на што накіраваны ўвесь працэс навучання ў інтэрнаце. У старшакласнікаў (а вучацца тут дзеці з першага па дзевяты клас) працоўнае навучанне 12 гадзін на тыдзень, плюс практыка. Асноўны профіль — гэта сельскагаспадарчая праца, таму што ў большасці сваёй выхаванцы інтэрната з сельскай мясцовасці. Акрамя таго, хлопчыкі асвойваюць сталярна-цяслярскую справу, знаёмяцца са спецыяльнасцямі тынкоўшчыка і маляра, дзяўчынкі пазнаюць сакрэты кулінарыі, вучацца шыць.

— Пасля заканчэння інтэрната, — расказвае дырэктар Ратамскай дапаможнай школы-інтэрната В. Радзецкі, — нашы выпускнікі могуць працягваць вучобу ў спецгрупах па тынкована-малярнай справе ў вучылішчы горада Чэрвеня ці паступіць у Бярэзінскае вучылішча, дзе атрымліваюць спецыяльнасць механізатараў. Як правіла, нашы дзеці — добрасумленныя рабочыя. Толькі вось з працаўладкаваннем дзяўчынак крыху горш. У горадзе на работу іх не бяруць, адзіная магчымасць — гэта птушкафабрыка ў Смалявічах. Праўда, цяпер я клапачуся аб уладкаванні дзвюх дзяўчынак у Мінскае кулінарнае вучылішча. Хаця ўсё гэта даволі праблематычна.

— Нядаўна ў нас была дэлегацыя з Польшчы, — працягвае размову намеснік дырэктара інтэрната па выхаваўчай рабоце І. Пяткевіч, — і госці расказалі нам цікавыя рэчы. Напрыклад, у іх ёсць закон, згодна з якім прадпрыемствы і ўласнікі, хто бярэ на працу выпускнікоў школ, падобных да нашай, вызваляюцца ад падатку, які яны павінны плаціць дзяржаве за кожнага працуючага. І нават, калі нейкая фірма пераводзіць сродкі на інтэрнат, займаецца дабрачыннасцю, то яна таксама не плаціць падаткі. У нас жа, на жаль, такога няма, таму і вялікая праблема з працаўладкаваннем. Мы, магчыма, знайшлі б сабе спонсараў, якія нам дапамогуць і, натуральна, бралі б менш грошай у дзяржавы, але камерсантам гэта абсалютна нявыгадна. Цяпер нам дапамагае фірма "Герда". Але адбылося гэта зусім выпадкова. Прадстаўнікі фірмы прыехалі да нас на Новы год, прывезлі дзецям падарункі, прапанавалі пры неабходнасці звяртацца да іх за дапамогай. А яна, прызнацца, спатрэбілася нам даволі хутка: нашым дзецям трэба было купіць спартыўныя касцюмы для паездкі на Сусветныя Алімпійскія гульні дзяцей-інвалідаў у Зальцбург. Фірма выдзеліла 100 тысяч рублёў.

Раней увогуле пра падобныя школы-інтэрнаты стараліся не гаварыць: нібыта і ёсць такія школы, а нібыта і няма. І тое, што знаходзяцца камерцыйныя арганізацыі, якія хаця б спантанна, але зусім добраахвотна, без якіх-небудзь агляцак на льготы дапамагаюць хворым дзецям, безумоўна, радуе. Але як хацелася б, каб урад наш, вырашаючы глабальныя палітычныя пытанні, перабудоўваючы і перакройваючы наша жыццё, помніў пра "маленькія" праблемы анамальных дзяцей.

У мінулым годзе Ратамскай школе-інтэрнату споўнілася 30 гадоў. Як лічаць педагогі (а іх тут 52 чалавекі), інтэрнат стаў ператварацца з прыходам В. Радзецкага. Васіль Іванавіч жа цвёрда перакананы, што калі б у яго не было такога дружнага, дасведчанага і самаадданага калектыву, нічога б ён не дабіўся. Але і самі дзеці, вядома, з дапамогай выкладчыкаў і выхавацеляў, стараюцца, каб іх дом, інтэрнат, быў прыгожым і ўтульным. Разам са старшакласнікамі малодшыя памагалі рабіць рамонт. Самі клеілі шпалеры, выразалі з іх узоры і рабілі аплікацыі. Асабліва прыгожымі атрымаліся спальні, а кожны клас мае сваё аблічча. Дзяўчынкі пашылі шторы на вокны і пакрывалы на ложкі, а хлопцы зрабілі паліцы, вешалкі. З задавальненнем дзеці працуюць у цяпліцы, дзе вырошчваюць кроп, пятрушку, радыску, цыбулю, памідоры, агуркі.

— Ведаеце, які ўраджай агуркоў быў у нас у мінулым годзе? — смешна склаўшы губы трубачкай, Сашок — так завуць яго сябры — закрыў вочы і працягнуў: — У-у, — што, відаць, значыла — вельмі многа.

— А яшчэ ў нас ёсць нутрыі і трусы...

— А яшчэ...

Дзеці расказалі, што ў іх дванаццаць гурткоў. Нехта больш за ўсё любіць займацца фларыстыкай, нехта фотасправай, спяваць у хоры і танцаваць, але ўсім надта падабаецца ездзіць у Мінск у басейн і лёгкаатлетычны манеж. Вельмі любяць хакей, канькі і конны спорт.

Многія гады ў нашай краіне лічылася, што анамальныя дзеці не могуць займацца спортам, што ён ім шкодны. Ва ўсім свеце праводзіліся для такіх дзяцей і дзяцей-інвалідаў Алімпійскія гульні, а ў нас — "нельзя". І толькі ў гэтым годзе ўпершыню Беларусь адправіла сваю каманду на зімнія Алімпійскія гульні ў Зальцбург. Сярод 33 дзяцей, якія пасля папярэдніх адборачных спаборніцтваў увайшлі ў каманду, 9 — з Ратамскай дапаможнай школы-інтэрната.

**Наталля ЗЫБАЙЛА.**





**НА ЗДЫМКАХ: у Ратамскай школе-інтэрнаце.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# НАКІДЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

**Колькі цікавых старонак напісана апошнім часам пра нашых суайчыннікаў у замежжы. Будзем спадзявацца, што ў недалёкім часе яны складуць аб'ёмную гісторыю беларускай эміграцыі. А пісаць ёсць жа пра што! Аб гэтым сведчаць і тыя некалькі артыкулаў навуковых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, якія мы хацелі б прапанаваць нашым чытачам. Першы з іх — пра беларусаў, што прыехалі ў 20—30-я гады ў Францыю ў пошуках лепшага жыцця.**

## ЯК УЗНІК "ХАЎРУС"?

Вядома, што для беларуса, характэрнай рысай якога з'яўляецца прывязанасць да сваёй Бацькаўшчыны, роднага кутка, змена месца жыхарства, пераезд у іншыя, чужыя краіны — справа вельмі нялёгкая. Ён адважваўся на гэты крок толькі ў тым выпадку, калі жыццё на Радзіме рабілася ўжо зусім невыносным. Менавіта такім было яно ў міжваенным часе для жыхароў той часткі Беларусі, якая паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 года паміж Савецкай Расіяй і Польшчай апынулася ў складзе польскіх земляў.

З ласкі бальшавікоў пад Польшчу трапіла 40 працэнтаў тэрыторыі сучаснай Беларусі з насельніцтвам каля 3 мільёнаў чалавек. Лёс іх, што быў і дагэтуль не надта лагодны, стаў яшчэ больш складаным. Аб гэтым яскрава сведчаць лічбы. Напрыклад, на долю, бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, што складалі 94,2 працэнта ад іх агульнай колькасці, прыпадала толькі 38,8 працэнта зямлі, астатнія ж — 61,2 працэнта земляў знаходзіліся ў руках памешчыкаў. Польскі ўрад не шкадаваў сродкаў, каб паралельна з буйным памешчыцкім землеўладаннем насадзіць польскае серадняцкае сялянства на Беларусі. Гэта рабілася шляхам раздачы казённых земляў гэтак званым асаднікам. У выніку да 1939 года ўжо 27 тысяч гаспадарак у Заходняй Беларусі належала каланістам-палякам, якія ў сярэднім мелі па 500 гектараў зямлі, у той час як беларускі селянін валодаў 2,7 гектара. Малазямелле і беззямелле вяло да жабрацкага, напаўгаладнага існавання. Не было працы і ў гарадах, дзе эканамічны крызіс прывёў да заняпаду прамысловасці, згортвання будаўніцтва і, у выніку, да высокага ўзроўню беспрацоў'я.

Складаным было становішча і ў нацыянальна-культурнай сферы жыцця заходніх беларусаў. Польскі ўрад рашуча адкідаў усе захады аб мясцовым беларускім самакіраванні, развіцці нацыянальнай адукацыі. Пастунова, але мэтанакіравана зачыняліся існаваўшыя беларускія школы. З 412 пачатковых школак, што былі ў Заходняй Беларусі ў 1922 годзе, да 1933 года былі ліквідаваны практычна ўсе, зачынены апошнія беларускія гімназіі ў Вільні і Навагрудку. Беларускае настаўніцтва ўсялякімі шляхамі выціскалася з краю ў карэнныя польскія вобласці. Сюды ж пачало накіроўвацца каталіцкае духавенства, клерыкальныя арганізацыі, на якія дзяржавай ускладаліся абавязкі правядзення жорсткай палітыкі дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва.

Комплекс гэтых дый іншых праблемаў прыгнятаў беларусаў адчуваннем сваёй безабароннасці і няпоўнай вартасці, не даваў упэўненасці ў заўтрашнім дні на роднай зямлі, але ў чужой дзяржаве. Пыхлівае стаўленне да іх паноў, каланістаў-асаднікаў, прадстаўнікоў касцёла як да людзей другога гатунку абражала чалавечую годнасць беларусаў. Гэта наводзіла на думку пашукаць лепшай долі ў іншых краях, прымушала пакідаць зямлю продкаў, падавацца ў замежжа. Для многіх тысяч абяздоленых людзей, якім у Польшчы не знаходзілася ані працы, ані хлеба, ад'езд уяўляўся адзіным выйсцем. Новая польска-савецкая мяжа выключала магчымасць шукаць працы ва ўсходніх раёнах Беларусі, але ж былі адкрыты шляхі ў іншыя краіны свету.

Асабліва вялікая колькасць беларусаў выпраўлялася ў Францыю, Бельгію, краіны Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. Усяго ў міжваенны перыяд з тэрыторыі беларускіх ваяводстваў ад'ехала за мяжу ад 200 да 240 тысяч чалавек.

Што ж чакала іх на чужыне? Возьмем дзеля прыкладу Францыю, краіну, у якую, па прыблізных звестках, прыбыло каля 30—35 тысяч беларусаў. Разам з эмігрантамі з іншых краін яны былі пастаўлены ў даволі жорсткія рамкі існавання. Абмяжоўваўся пераезд на жыхарства з аднаго дэпартамента ў другі. Пільна кантралявалася працэнтная норма, паводле якой іншаземцы выціскаліся з больш лёгкіх і прэстыжных работ у прамысловасці на цяжэйшыя — у шахты, на лесапавалы, будаўніцтва дарог, іншыя працаёмкія земляныя работы. Забаранялася змена прафесій, хай сабе і вельмі блізкіх па роду дзейнасці: цясляр не мог працаваць сталяром, а земляроб — землякопам у дарожным будаўніцтве. Дзеля атрымання палёгкі рэжыму трэба было пражыць на тэрыторыі Францыі не менш за 15 гадоў, адслужыць у войску і г.д.

Матэрыяльнае становішча эмігранта залежала не толькі ад яго прафесіі, але і ад раёна пражывання. Найбольш высокія заробкі мелася магчымасць атрымаць на буйных прадпрыемствах прамысловых цэнтраў. Напрыклад, слесар на фабрыцы мог атрымліваць да 8 франкаў у гадзіну. У той жа час гэткі ж спецыяліст у невялікім правінцыяльным гарадку зарабляў у лепшым выпадку 4—4,5 франка. Крыніцы сведчаць, што эмігранты-беларусы ў сваёй масе не прыдбалі вялікага багацця ў Францыі. Эміграцыйны беларускі друк падае звесткі, што на тысячу чалавек меўся адзін-другі, што паклаў у банк 25—30 тысяч франкаў, якія сабраў за 10—12 гадоў сваёй нялёгкай працы.

Але ж не адзіным хлебам жывіцца чалавек. Важнай для беларуса на замежжы з'яўлялася і духоўная, нацыянальна-культурная сфера. У канцы 20-х гадоў у Францыі пачаў разгортвацца арганізаваны беларускі культурны рух. Спачатку яго піянеры не ставілі перад сабой пэўных мэтаў, існаваўшыя гурткі мелі выключна сяброўска-зямляцкі характар. Сапраўдным жа пачаткам арганізаванасці беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі можна лічыць снежань 1930 года, калі ў Парыж з Чэхаславаччыны прыехалі М. Абрамчык і Л. Рыдлеўскі. Паводле іх ініцыятывы быў заснаваны "Хаўрус" — культурна-асветніцкая арганізацыя беларускіх працаўнікоў. Менш чым за год дзейнасці Генеральнай Рады "Хаўруса" ў розных раёнах Францыі было створана і афіцыйна зацверджана 5 філіялаў, якія налічвалі амаль 350 сяброў. На працягу сваёй дзейнасці па розных прычынах "Хаўрус" меў перыяды ўзлёту і пэўнага заняпаду. Яго праца ўстабілізавалася толькі напрыканцы 1936 года. Тады ён ужо меў сваё штомесячнае выданне — Бюлетэнь, што друкаваўся на літографе. У ім адлюстроўвалася хроніка жыцця на Бацькаўшчыне, змяшчаліся артыкулы па гісторыі і літаратуры Беларусі, друкаваліся творы вядомых беларускіх літаратараў. "Хаўрус" арганізоўваў чытанне лекцый, праводзіў семінары, закладваў беларускія бібліятэкі-чытальні.

Пастунова арганізацыйная дзейнасць сярод беларусаў-эмігрантаў пашыраецца. З 1938 года ў Парыжы пачынае друкавацца беларуская газета "Рэха". Была заснавана арганізацыя беларускіх жанчын — Беларуская жаночая грамада імя А. Пашкевіч (Цёткі). Можна сцвярджаць, што разам з культурна-асветніцкай працай арганізаваная беларуская эміграцыя не цуралася ў пэўным сэнсе і палітычнай дзейнасці. Так, штогод 25 сакавіка праводзілася святкаванне Дня Незалежнасці Беларусі.

Актывізацыя руху беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі адбывалася на трывожным фоне падзей, што разгортваліся ў Еўропе і свеце. Набліжалася другая сусветная вайна, у вогненнай віхуры якой хутка апынуліся і нашыя землякі, што знайшлі прытулак на французскай зямлі. З пачаткам вайны польскі ўрад, які пераехаў у Францыю, пачаў мабілізацыю палякаў і беларусаў, якія жылі там, у сваё войска. Гэта выклікала супраціўленне з боку беларусаў, якія не жадалі змагацца пад польскімі штандарамі, бо ўспрымалі акупацыю Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі як здзяйсненне гістарычнай справядлівасці — уз'яднання беларускіх земляў. З польскага ж пункту гледжання, гэта быў акт агрэсіі, супраць якога трэба было змагацца з СССР, таксама, як і з Германіяй. Зразумела, беларусам не спадабалася перспектыва ваяваць са сваімі братамі-беларусамі з усходніх раёнаў за інтарэсы Польшчы на "крэсах". Заклік "Хаўруса" да беларусаў байкатаваць мабілізацыю ў польскую армію быў даволі смелым крокам, бо гэткая дзейнасць магла разглядацца ўладамі Францыі як пэўная прапаганда супраць саюзнікаў, што прадугледжвала адпаведна закону суровае пакаранне. Аднак вынік атрымаўся станоўчы. Праўда, дазволу на стварэнне асобных беларускіх вайсковых фарміраванняў (а меліся і такія планы) дадзена не было, але спецыяльнай пастановай французскі ўрад даў згоду на добраахвотны выбар беларусамі арміі, у шыхтах якой яны жадалі б змагацца з ворагам. Наступствам гэтага было ўступленне больш за 1 200 беларусаў у французскі легіён. Але рэалізаваць свой ваенны запал ім не ўдалося. Гітлераўская армія ў траўні 1940 года ўступіла на тэрыторыю Францыі, якая 22 чэрвеня вымушана была капітуліраваць. Беларусы ў Францыі, падзяліўшы лёс усяго насельніцтва краіны, трапілі пад нямецкую акупацыю. Некаторыя з іх змагаліся ў радах французскага Супраціўлення ці польскай арміі, у якую падалася пэўная частка беларусаў-эмігрантаў.

**Таццяна ПАПОЎСКАЯ.**

## ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ПАЧУЦЦЁ ПАДМАНУ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Што атрымалася — усе ведаюць. Мне падаецца, што сёння проста ўсім усё абыякава, засталося толькі адно — адчуванне падману, старэйшае пакаленне зноў падманула нас. Вось чаму я і лічу, што маладзёжная арганізацыя сёння не можа быць пры нейкай партыі. Вопыт паказаў: любая "дарослая" палітычная структура рана ці позна здрадзіць і выкарыстае моладзь у сваіх мэтах. Значыць, трэба зыходзіць з усім вядомых радкоў "Інтэрнацыянала": "Ніхто не дасць нам выбаўлення — ні Бог, ні цар і ні герой". Ні Ельцын, ні Шушкевіч, ні Краўчук. Але пры гэтым трэба верыць у саміх сябе, ва ўласныя рукі і ўласныя сілы, у тое, што ад цябе канкрэтна нешта залежыць. У мяне ёсць дзве любімыя фразы — адна в вальтэраўскага "Кандзіда": "Кожны павінен урабляць свой сад" — над сваёй дзялянкай жыцця, хай і маленькай, трэба працаваць самому і ніадкуль не чакаць дапамогі. А другая, памятаеце, у Экзюперы: "Прачнуўся раніцай, памыўся, пачысціў зубы — прывядзі ў парадак сваю планету". Маю планету трэба прыводзіць у парадак. Я гэта ведаю дакладна, бо я — школьны настаўнік і пяць год працаваў у школе.

**— Мне чамусьці падаецца, што вас дзеці любілі...**

— Любілі. Мяне абралі сакратаром ЦК камсамола непасрэдна са школы, да гэтага я ні дня не працаваў у камсамоле. А адразу пасля гэтага адбылося паўлаўскае павышэнне цэнаў, і мне давялося рэгулярна за свой кошт ездзіць з Мінска ў Гродна, таму што там у мяне было тры выпускныя класы, а здрадзіць дзецям, кінуць іх было немагчыма. Я дакладна ведаю, што калі я сёння кіну сваю работу або проста не буду нічога рабіць, або дазволю камерцыялізаваць усю нашу арганізацыю — здраджу сваім вучням.

**— А ці не здаецца вам, што наступнае пакаленне, тыя, каму сёння гадоў 12—13, могуць вырасці людзьмі цынічнымі і нават жорсткімі! Сёння гэтыя дзеці не могуць набыць "Снікерсы", якія ляжаць на вітрынах камерцыйных кіёскаў, а калі яны трохі падрастуць — разаб'юць камянём шкло і самі возьмуць усё, што ім будзе трэба.**

— Калі я працаваў у школе, акрамя рускай мовы і літаратуры, я вёў прадмет пад назвай марксісцка-ленінская этыка. Нічога марксісцка-ленінскага там не было, а вось што датычыцца этыкі, дык мы бясконца спрачаліся, цытавалі Канта і Мантэня, будавалі мадэль ідэальнага грамадства, планавалі мадэль ідэальнага кабінета міністраў настолькі, наколькі гэта маглі ўявіць сабе школьнікі. Але надыходзіў дзень, якога я, шчыра кажучы, баяўся. У гэты дзень у нас ішла тэма "Мода і мы", і вучням дазвалялася прыйсці ў школу апранутымі так, як ім хацелася, як яны лічылі модным. І паверце, адразу многае станавілася зразумелым, а галоўнае, было бачна, што ўяўляюць з сябе бацькі кожнага з іх і чым стануць у будучыні яны самі. Я маю на ўвазе не кашалькі ці сацыяльны статус, а густ і, скажам так, узровень інтэлігентнасці. Ужо тады ў класе была катэгорыя школьнікаў, якія маглі дазволіць сабе многае. У мяне вучыліся тады сыны мэра Гродна, і адзін з іх быў на гэтым уроку. Хлопец, які мог дазволіць сабе апранущца модна і шыкоўна, як ніхто, прыйшоў на ўрок апранутым чыста, акуратна, з густам, але так, каб ніхто, гледзячы на яго, не адчуў сябе бедным ці прыніжаным. Разумныя бацькі разумелі, што дзеці не павінны адчуваць няроўнасці ні ў якім разе. А самае страшнае праяўленне цынізму, якое мне давялося бачыць, — гэта калі хлопец дзетсадаўскага ўзросту на вачах у дзяцей кінуў на зямлю недаедзены "Снікерс", а маці адразу ж купіла яму новы. Гэта была вельмі шчырая дэманстрацыя —глядзіце, мы багатыя, мы можам усё! Так што адзінае спадзяванне — на розум...

Але сёння, як ніколі, цяжка быць аптымістам. У Гродне я працаваў у школе, якая знаходзілася ў ваенным гарадку. У адным з класаў у мяне быў вучань, які вёў сябе проста невыносна — хаміў, грубіяніў, нікога не слухаў. Аднойчы паспрабавалі разабрацца, у чым справа. Пасля гэтага прыйшла да мяне яго маці і падзякавала за тое, што я быў першым, хто замест таго, каб крычаць на хлопца, проста паразмаўляў з ім. Аказалася, што калі яго бацьку — ваеннага медыка — адправілі ў Афганістан, ён узяў з сабою сям'ю: ніхто ж тады не ведаў, што там робіцца. І кожны раз, калі пачынаўся абстрэл і бацька ішоў у шпіталь збіраць па кавалачках нашых салдат, Славік падымаўся на плоскі дах, а маці па тры гадзіны ў слязах стаяла ўнізе, таму што ніякімі сіламі хлопца нельга было зняць адтуль. Ён чакаў бацьку. У яго нават вейкі сталі сівымі ад таго, што ён бачыў адтуль. Так, пакаленне тых, чые бацькі і браты вярнуліся з Афганістана, — скончаныя цынікі, бо яны на свае вочы ўбачылі фізічна і маральна скалечаных родных, якія ваявалі ў чужой краіне за чужыя ідэі. Прайдзіце па мінскіх школах, паглядзіце, што там робіцца! Замест камітэтаў камсамола і саветаў дружын — парламенты і ўрады, там адбываюцца пасяджэнні Вярхоўнага Савета і ўводзяцца прэзідэнцкія праўленні. Але калі яны ствараюць у школе парламент, яны ж бяруць прыклад з парламента "дарослага", таго, што бачаць па тэлевізары, і таму ў сваіх вышэйшых органах улады дзеці думаюць не пра лёс Радзімы, а пра тое, як там будуць прадстаўлены інтарэсы восьмых класаў. Гэтых дзяцей ніхто ніколі не вучыў будаваць, іх вучылі толькі разбураць. Так, ідэалогія — разбурана, армія — разбурана, эканоміка — разбурана. Мы гадуем пакаленне Базаравых, якія ўмеюць толькі разбураць. А будуюць Кірсанавы — людзі з пэўнай культурай, традыцыямі і высокім узроўнем мыслення.

**— Дык што ж тады рабіць! Атрымліваецца надта ўжо безнадзейная карціна...**

— Ведаеце, толькі што ў Віцебску прайшла студэнцкая гуманітарная канферэнцыя. Адзін з яе ўдзельнікаў прачытаў там даклад аб філасофскіх поглядах Веліміра Хлебнікава, які ён некалі напісаў нават не для семінара ці экзаменаў, а проста так, для сябе. Дык вось я думаю, што пакуль сярод нас ёсць маладыя людзі, якія проста так, для сябе будуць пісаць тэзісы па нейкіх праблемах, што хвалююць іх, — будучыня ў нас ёсць.

* * *

Мы яшчэ доўга сядзелі ў кабінеце Аляксандра Фядуты, і ён паказваў мне адну за другой цудоўныя кнігі, якія стаялі ў яго на паліцы. Тут былі і той жа Хлебнікаў, і Салаўёў, і Цвятаева, і Борхес, паэтычныя зборнікі і філасофскія працы. Мы гаварылі пра літаратуру, паэзію, наш час, пра будучыню, а я глядзела на яго і думала: пакуль самую буйную маладзёжную арганізацыю рэспублікі будзе ўзначальваць чалавек, які ведае на памяць амаль увесь "срэбны век" рускай паэзіі, былы школьны настаўнік, якога любілі дзеці, у якога на кніжных паліцах не толькі дома, але і ў кабінеце стаяць кнігі, кожную з якіх хочацца ўзяць у рукі і адразу ж пачаць чытаць, — не ўсё яшчэ згублена...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**Лідзія САВІК**

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА



Санкт-Пецярбург быў на той час не толькі расійскай сталіцай, цэнтрам расійскага грамадскага жыцця, але і своеасаблівым беларускім цэнтрам, куды на вучобу і працу прыязджалі многія юнакі і дзяўчаты з Беларусі. Тут на агульнаадукацыйных курсах Чарняева вучыўся Янка Купала, у Пецярбургскім імператарскім універсітэце вучыліся Янка Нёманскі (дарэчы, ураджэнец Шчорсаў), Р. Астроўскі, працаваў Цішка Гартны, жылі браты Іван і Антон Луцкевічы, для землякоў з Беларусі былі шырока расчынены дзверы гасціннага дома прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. У Пецярбургу была арганізавана першая беларуская палітычная партыя — Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ), на чале якой стаяў Іван Луцкевіч (ён студыяваў юрыспрудэнцыю і археалогію ў Пецярбургу). Барыс Кіт тады быў яшчэ дзіцем, дапытлівым падлеткам, які толькі пачынаў уваходзіць у дарослае жыццё, вучыўся разумець рэчаіснасць, людзей, падзеі. Яго дзіцячая памяць захавала многія моманты жыцця ў Пецярбургу і яго ваколіцах. Бацька ў вольныя часы браў сына на вандроўкі, падчас якіх паказваў найбольш выдатныя, велічныя будынкі, палацы, саборы, плошчы і вуліцы славутага горада на Няве, пабудаванага Пятром Першым і высілкамі многіх простых людзей, у тым ліку і беларусаў. Найлепш хлопчыку запомнілася Петрапаўлаўская крэпасць, дзе ён пабачыў грабніцы памёрлых імператараў, імператрыц, з якіх найбольшае ўражанне зрабіў пахавальны склеп Пятра Першага.

Калі жылі ў Шувалаве, бацька, заядлы рыбак, далучаў сына да гэтага карыснага занятку. І назаўсёды адбіліся ва ўражлівай дзіцячай памяці незвычайная прыгажосць шматлікіх азёр і рэчак маляўнічых прыгарадаў сталіцы. Нездарма, мусіць, гэтыя карціны пасадзейнічалі таму, што пазней у гімназіста Барыса Кіта адкрыўся талент мастака-жывапісца, сфарміраваліся гуманітарныя здольнасці будучага матэматыка, яго любоў да сусветнай класічнай літаратуры, прыгожага пісьменства, музыкі, схільнасць да вывучэння розных моў, гісторыі. Неаднойчы ўся сям'я ездзіла ў суседняе Паргалава, найчасцей у залатыя восеньскія дні, найпрыгажэйшыя ў цудоўных ваколіцах Пецярбурга, а то і проста ў лес па грыбы і ягады.

Фінляндыя належала тады да Расіі як вялікае княства. І ўжо ў сталыя гады, калі Барыс Уладзіміравіч наведваў Фінляндыю, яму часта прыгадвалася маленства, ён і цяпер бачыў расійскія ўплывы, у Хельсінкі асабліва, дзе шмат расійскіх помнікаў, будынкаў, сабораў, цэркваў. А тады, дзякуючы пастаянным камандзіроўкам бацькі, сям'я мела магчымасць праводзіць канікулы ў Фінляндыі, жыць там па некалькі месяцаў. Гэты перыяд згадваецца Барысу Уладзіміравічу як спакойныя, цікавыя імгненні хутка праляцеўшага бесклапотнага, шчаслівага дзяцінства, атуленага бацькоўскім клопатам, гармоніяй акаляючай прыроды, што закладвала добрыя пачаткі ў душы дзіцяці. Ідылія гэтага жыцця (у дзіцячым успрыманні) была спынена, калі пачалася Лютаўская рэвалюцыя 1917 года і хутка пасля яе адбыўся бальшавіцкі кастрычніцкі пераварот. У гэтым часе бацька зноў вярнуўся на сваю старую службу ў Пецярбургу, і сям'я (дарэчы, меншы сын Кітоў — Юры, які нарадзіўся ў Шувалаве, на жаль, памёр і быў пахаваны на мясцовых могілках) пасялілася ў кватэры на Шамшавай вуліцы, якая перасякаецца з Вялікім праспектам. Уражлівая памяць Барыса Кіта захавала асобныя, найбольш яскравыя сцэны рэвалюцыйных падзей 1917 года ў Пецярбургу: яны з маці былі аднойчы на Марсавым полі і назіралі пахаванне ахвяр кастрычніцкага перавароту, у агромністым натоўпе лунаілі чырвоныя сцягі і гучаў Інтэрнацыянал. Але на ўсё жыццё з тым успамінам захавалася адчуванне холаду, ад якога пакутавала ўся істота хлопчыка, і ён не мог дачакацца, калі яны вернуцца дамоў, у хатняе цяпло, каб пазбыцца гэтага відовішча. Як прыгадваецца Барысу Уладзіміравічу цяпер, Кастрычніцкая рэвалюцыя, якую здзейснілі бальшавікі, адбылася без асаблівага розгаласу, многія яе нават не заўважылі і апамяталіся толькі тады, калі пачаўся страшэнны голад і людзі памiралі літаральна на вуліцах.



**1948 год. Б. Кіт перад выездам у Амерыку.**

Бацька пазней расказваў, што яму немагчыма было трапіць на працу з-за баёў (часцей за ўсё адбываліся на мастах праз Няву) паміж рэвалюцыянерамі, жандарамі і казакамі, і ён вымушаны быў наймаць лодку, каб пераправіцца праз раку і своечасова трапіць на работу, бо штодня мусіў быць там як спецыяліст па замежнай тэлеграфнай сувязі. Маці пачала часцей наведвацца ў вёску да сваіх бацькоў, каб здабыць нешта з прадуктаў, нават пры пагрозе быць расстралянай, таму што бальшавіцкімі камітэтамі было забаронена перавозіць харчы. Але яе гэта не спыняла. Аднойчы яна ўзяла з сабой і сына, каб пакінуць яго ў вёсцы, дзе пакуль што не галадалі. У вёску Тупікава трэба было ехаць спачатку па старанікалаеўскай чыгунцы Пецярбург — Балагое — Разань, выходзіць на станцыі Кашын. Гэты рускі горад запомніўся сваімі драўлянымі дамамі з разнымі аздобамі на ваканіцах, фігурамі расійскіх сялян з вялікімі, акладзістымі барадамі. Яны хадзілі па чыстых, утульных вуліцах у доўгіх белых кашулях, падпяразаных рознакаляровымі паскамі. У вёску ехалі на падводзе, і вось яна адкрылася з пагорка — незвычайна прыгожае, вялікае паселішча, у цэнтры якога ўзвышалася шматкупальная царква, блакітам разлівалася возера.

Але ў вёсцы маці не пакінула сына, вярнуліся яны ў халодны і галодны Пецярбург, каб у такі трывожны, цяжкі час быць усім разам. У гэтыя галодныя гады вельмі быў прыдатны бацькаў рыбацкі вопыт, яны часта з сынам лавілі вудай рыбу, што было немалой падтрымкай для сям'і. І ўсё ж гэта не ратоўвала, здабываць харчаванне станавілася цяжэй і цяжэй. І бацька вырашыў адправіць сына з жонкай на сваю радзіму Беларусь, у Агароднікі, нягледзячы на небяспеку такога падарожжа. Яно і адбылося дакладна так, як гэта апісана ў рамане Барыса Пастэрнака “Доктар Жывага” і паказана ў аднайменным амерыканскім фільме паводле рамана рускага пісьменніка. Там ёсць сцэна: цягнік набірае хаду, і ў апошні момант на прыступку перапоўненага людзьмі таварнага вагона ўскоквае чалавек. Ён просіцца ў вагон, але азлобленыя пасажыры спіхваюць яго пад поезд, на рэйкі. Іменна гэту жудасную сцэну назіраў малы Барыс, едучы з маці на Беларусь. Гэта быў канец 1918 года. З імі разам ехаў дзядзька Міхась з сынам Паўлам і дачкой Надзяй. З вялікімі цяжкасцямі дабраліся да Мінска, дзе можна было нешта купіць з яды, на якую накінуліся згаладалыя падарожнікі. У вёсцы напачатку пасяліліся ў цёткі Вольгі, сям'я якой жыла ў Сапатніцы, што за 10 кіламетраў ад Агароднікаў. Маці вымушана была вярнуцца ў Пецярбург, пакінуўшы васьмігадовага сына на клопаты цёткі. Гэта быў вельмі цяжкі перыяд і для Беларусі. Голад панаваў і на вёсцы. Дзеці хадзілі на памешчыцкае поле, збіралі гнілую бульбу, крапіву, лебяду, варылі нейкае варыва. Ад голаду і дрэнных умоў у параўнанні з пецярбургскай кватэрай, тугі па бацьках малы Барыс часта хварэў. Але маці з бацькам хутка вярнуліся з Пецярбурга, і ўсе разам пераехалі жыць у Карэлічы. Спачатку туліліся па кватэрах, пакуль не збудаваў бацька хату на сваім надзеле зямлі, што застаўся ад гаспадаркі дзеда ў Агародніках. І хоць хата была яшчэ недабудаванай, без падлогі, але гэта быў свой прытулак, без якога чалавеку жыць у вёсцы немагчыма. Нядоўга пагаспадарыла ў новай хаце Ксенія Дзмітраўна, яе хворае сэрца не вытрымала цяжкіх выпрабаванняў, якія выпалі на долю сям'і і якія былі абумоўлены рэвалюцыйнымі ўзрушэннямі, грамадзянскай вайной. Яна памерла ў 1920 годзе зусім маладой, трыццацігадовай, пакінуўшы адзінага сына. Гэта было вялікае гора для дзесяцігадовага хлапчука. Воблік роднай маці, маладой, прыгожай, назаўсёды застаўся ў яго сэрцы. Бацьку, вядома ж, немагчыма было аднаму спраўляцца з гаспадаркай, і ён праз некаторы час ажаніўся другі раз з мясцовай жанчынай Аленай Швед, якая паходзіла з вёскі Валеўка, што на возеры Свіцязь. Гэта была працавітая, спагадлівая душой беларуская сялянка, якая стала не мачахай, а другой маці асірацеламу падлетку. Неўзабаве ў Барыса паявіліся брат і сястра (цяпер брат Барыса Уладзіміравіча — Лявон Уладзіміравіч Кіта жыве ў Мінску, сястра — Ірына Уладзіміраўна Вярбіцкая — у Карэлічах).

На Беларусі ў 1918—1919 гадах ішла вайна з белапалякамі, якая скончылася Рыжскім пагадненнем. Па яго ўмовах, да Польшчы адыходзіла вялікая частка Заходняй Беларусі, якую палякі называлі “крэсы ўсходнія”. Агароднікі таксама апынуліся пад Польшчай, урад якой многія беларускія сялянскія і памешчыцкія землі аддаў польскім каланізатарам-асаднікам. Бедныя сяляне-беларусы вымушаны былі ісці працаваць да іх парабкамі, бо малазямельныя гаспадаркі забяспечвалі толькі напаўгалоднае існаванне.

Сям'я Кіта, маючы невялікі надзел зямлі, цяжка і шмат працавала, каб неяк зводзіць канцы з канцамі. Барыс дапамагаў бацьку ўсім, чым мог у свае гады. Гэта было звычайнае жыццё вясковага падлетка, які заўсёды быў заняты нялёгкімі сялянскімі справамі: пасвіў карову, каня, дагледзаў за малодшымі дзецьмі, калі бацькі былі ў полі ці куды ад'язджалі з дому. Зімою працы было менш, і бацька вучыў сына першай грамаце. Дзякуючы прыроджаным здольнасцям, ён хутка навучыўся чытаць, пісаць, асабліва ўпадабаў арыфметыку і ў 1924 годзе паступіў адразу ў 4-ты клас мясцовай польскай школы, бо беларускай тады не было. Вучыўся выдатна, выказваючы асаблівую прыхільнасць да малявання. Яго малюнкі выстаўляліся на мастацкай выстаўцы ў Познані. На гэта звярнуў увагу сам дырэктар школы Дулемба і, прагледзеўшы разам са школьным інспектарам малюнкі Барыса Кіта, абяцаў выстарацца для его стыпендыю ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. На жаль, з гэтага нічога не атрымалася. Дулемба ануляваў свае абяцанні пасля пэўнага здарэння. Справа ў тым, што адным з настаўнікаў школы быў беларус Сцяпан Рамановіч. Ён выкладаў матэматыку, а каб больш зразумелай і даходлівай была для вучняў гэта складаная навука, часта выкарыстоўваў прыклады з акаляючага сялянскага жыцця. Ён не любіў палякаў, асабліва асаднікаў, лічыў іх дрэннымі гаспадарнікамі, і ўсе яны ішлі ў яго пад адмоўным знакам. Крытычна настроены і неасцярожны настаўнік пачаў аднойчы ўрок аб дадатных і адмоўных лічбах такім чынам: выклікаў да дошкі Барыса Кіта, як лепшага ў матэматыцы вучня. “Кіта, уяві, што ты ёсць польскі асаднік на Беларусі. Увосень ты нажаў пэўную колькасць жыта. Як робяць пераважна асаднікі, ты паленаваўся, не змалаціў яго, а проста вывез у мястэчка і прадаў за пэўную колькасць злотых, ну няхай за 500. Дзеля таго, што гэта быў твой чысты прыбытак, дык паставім перад гэтай лічбай +. Атрымаўшы гэтыя грошы, ты пайшоў у карчму і парадкам выпіў гарэлкі, ну, скажам, на 50 злотых, таму паставім перад 50 знак -. ...”. Гэткім спосабам настаўнік уводзіў алгебраічныя паняцці дадатных і адмоўных лікаў.

**Ведамасць аб поспехах і паводзінах вучня восьмага класа Наваградскай змешанай беларускай гімназіі Барыса Кіта.**

Працяг.
Пачатак у № 22.

# "ПАЭТ І ПЕСНЯ"

У Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася літаратурна-музычная вечарына "Паэт і песня".

Аб тым, як песня трывала жыла ў Купалавым доме, аб сяброўстве Купалы з кампазітарамі гаварыла навуковы супрацоўнік музея Марыя Чабатарэвіч. Так ужо здарылася, што многія песні на словы Я.Купалы 20-х гадоў не выконваліся, хаця музыку напісалі выдатныя кампазітары. І сёння, калі адраджаецца наша духоўная спадчына, мы звяртаемся да Янкі Купалы, да яго першаасновы, да вытокаў песні.

У вечарыне прынялі ўдзел артысты вакальнай студыі імя Дуніна-Марцінкевіча Фрунзенскага раёна горада Мінска. У выкананні Ірыны Пушкаровай і Аляксандра Лук"янюка ўпершыню прагучала песня на словы Янкі Купалы "Родная мова" кампазітара М.Куліковіча.

Парадавала слухачоў песня на словы Я.Купалы "Я ад вас далёка" (музыка М.Куліковіча) у выкананні дуэта Вольгі Равенскай і Эмы Пенінай. Трэба адзначыць, што ўпершыню гэта песня прагучала ў выкананні нашага суайчынніка са ЗША Данчыка. Ён запісаў яе на пласцінку. Кампазітар жа пісаў музыку для двухгалосся, і яна была выканана на гэтай вечарыне ўпершыню.

Прыемнай нечаканасцю для гасцей Купалавага дома была сустрэча з песняй на словы Янкі Купалы "Не загаснуць зоркі ў небе" (музыка Янчука, апрацоўка Лявіцкага). Гарманізацыя песні рабілася яшчэ ў 1918 годзе для гімна БНР. Песня была фактычна гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі. А калі быў аб"яўлены конкурс на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, песня ўвайшла ў фінальную тройку гімнаў. Цікава, што калі песня ўдзельнічала ў конкурсе, то карысталіся вакальным радком, запісаным кампазітарам Янчуком у адным з віленскіх зборнікаў песень 20-х гадоў. Перадаў вакальны радок паэт С.Новік-Пяюн. І толькі нядаўна знойдзены клавір, які рабіўся для выканання гэтага гімна. Клавір падараваны музею. Песня прагучала ў выкананні Аляксандра Лук"янюка і была ўхвалена прысутнымі.

Лірычна, задушэўна выканаў спявак Юрый Фёдараў песню на словы Я.Купалы (музыка Дзмітрыя Лукаса) "Як у лесе зацвіталі". Многія рамансы, напісаныя на вершы Я.Купалы, гучаць сёння як беларускія народныя песні. Яркім прыкладам гэтага з"яўляецца песня "Явар і каліна".

З вялікай любоўю да Купалы, да яго паэтычнага слова гаварыў беларускі паэт Леанід Дранько-Майсюк. Ён прачытаў нізку лірычных вершаў.

Як зачараваныя, уважліва слухалі прысутныя мінскі хор "Дабралад" пад кіраўніцтвам Галіны Дабрыцкай. Грацыёзна, велічна, непаўторна гучалі духоўныя творы кампазітараў Бартнянскага, Архангельскага, Кікта.

Невычэрпная крыніца Купалавай паэзіі прыцягвала і прыцягвае ўвагу беларускіх кампазітараў, якія інтэрпрэтуюць творы песняра ў розных музычных формах і жанрах.

**Марыя ЧАБАТАРЭВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: песню "Я ад вас далёка" выконваюць Вольга РАВЕНСКАЯ і Эма ПЕНІНА.**

# "ЧАС ДУХОЎНАГА ПАЯДНАННЯ..."

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Кастусю Акуле, Янку Запрудніку і многіх іншых. Павярнулася да беларускага замежжа і наша навука. Доследы ў гэтым накірунку праводзяцца ў шэрагу навукова-даследчых інстытутаў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Па ініцыятыве буйных вучоных у 1991 годзе пры Міністэрстве культуры Беларусі быў утвораны часовы творчы калектыў па распрацоўцы тэмы "Духоўная і матэрыяльная культура беларускага замежжа". У яго ўвайшлі спецыялісты па літаратуры і мове, фальклору, тэатральнаму, выяўленчаму і музычнаму мастацтву. Пачынаць даводзілася, па сутнасці, амаль з нічога. У выніку карпатлівай даследчай працы ў першым квартале 1993 года пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі выйшла ў свет першая кніга "Культура беларускага замежжа" пад рэдакцыяй А.Сабалеўскага (ён жа складальнік і аўтар прадмовы). Цікаўнасць да кнігі на Беларусі надзвычайная. Яна адразу ж знікла з паліц крамаў.

У прадмове А.Сабалеўскі слушна адзначае, што надышоў час, калі павінны з"явіцца комплексныя даследаванні па ўсіх сферах жыцця і творчасці нашых суайчыннікаў за мяжой. Але гэта пакуль што справа будучыні. Цяпер жа неабходна змяншаць белыя плямы, збіраць усё, што магчыма, каб "класці цагліну да цагліны, кідаць зерне за зернем". І такім чынам з цягам часу, аб"яднаўшы агульныя намаганні, стварыць сусветны культурны летапіс беларускага народа. Такая мэта вызначыла структуру кнігі, якая складаецца з трох раздзелаў: "Постаці", "Выданні", "Фальклор (Беласточчыны)".

Першы раздзел пачынаюць артыкулы Міколы Мішчанчука і Лідзіі Савік, якія распавядаюць аб творчасці двух буйнейшых беларускіх паэтаў са Злучаных Штатаў Амерыкі Наталлі Арсеневай і Масея Сяднёва. Па вызначэнні М.Мішчанчука, "лёс не галубіў і не песціў Н.Арсенневу — выдатнага майстра пейзажнай, пластычнай і суразмернай лірыкі, глыбокіх, тонкіх па псіхалагічнаму малюнку элегій, страсных, публіцыстычных одаў ваеннага часу..." Паколькі наш чытач вельмі мала ведае пра складаны, шмат у чым трагічны жыццёвы шлях паэткі, аўтар падрабязна спыняецца на яе біяграфіі, шчасліва пазбягаючы палітычных ярлыкоў і ідэалагічных догмаў. Ён імкнецца праз аналіз паэтычнай спадчыны высветліць духоўныя варункі Н.Арсенневай, яе светаадчуванне, чалавечае памкненне "быць вышэй за пакуты і за нявер"е", яе здольнасць абстрагавацца ад канкрэтных абставін дзеля найвышэйшай мэты "мастацкай творчасці" і "беларускага слова".

Сёння наш чытач мае, нарэшце, магчымасць пазнаёміцца з таленавітай паэзіяй Арсенневай і скласці аб ёй уласнае ўяўленне. Думаецца, што яе творчасць дае падставы пaглядзець на паэтку "як на чалавека, што знаходзіцца між берагамі, з параненай душою, але светлымі і незаплямленымі думкамі". Глыбока схаваны душэўны боль вызначае элегічны настрой яе вершаў, іх спавядальную, роздумную інтанацыю. Але раз-пораз мінорная танальнасць саступае месца надзеі, светлай веры ў Бога, які "дапаможа ўсталяваць справядлівасць на зямлі, прынясе адраджэнне роднаму краю". Нагадаўшы, што паэзія Н.Арсенневай уваходзіць у залаты фонд беларускай літаратуры, М.Мішчанчук прапануе ўключыць яе творы ў навучальныя праграмы школ і ВНУ.

Аб праве паэта быць пачутым на радзіме развакае Лідзія Савік, даючы творчы партрэт Масея Сяднёва. Крытык вызначае аўтабіяграфізм яго паэзіі, якая разглядаецца ў непарыўнай сувязі з жыццём, поўным драматычных падзей — ад перасыльных лагераў да Калымы. Гэта дапамагае зразумець, як і чаму лірычны настрой, аптымізм, душэўнае суладдзе часам знікаюць у яго вершах і яны афарбоўваюцца настроем роспачы, жаху, тугі. Але паэтычны дар, высокая духоўнасць дапамагаюць М.Сяднёву пераадолець душэўную скруху і нават самае цяжкае — развітанне з радзімай, якая назаўжды застаецца толькі ў сэрцы, толькі ва ўспамінах. На думку Л.Савік, паэт "арыентуецца на звычайнага чалавека" і адначасова яго "глыбока трывожаць супярэчнасці свету і асабліва тое, што чалавецтва страчвае агульную мову з прыродай". Такім чынам яго паэзія далучаецца і да "зямных спраў", і да "вечнасці сусвету". Разглядаючы творчасць М.Сяднёва ў руху, у кантэксце часу, аўтар прыходзіць да слушнай высновы: юнацкія парыванні лірычнага героя паступова ўзбагачаюцца аналітычным, філасофскім асэнсаваннем быцця, душы чалавека.

Пры ўсёй адметнасці індывідуальнасцей Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва ёсць тое агульнае, што аб'ядноўвае двух таленавітых творцаў. І ў першую чаргу — гэта нацыянальныя карані іх паэтычнага натхнення. Радзіму, як і бацькоў, чалавек не выбірае. У тым, дзе і ў якой сям'і кожны з нас нараджаецца, ёсць свая наканаванасць лёсу, Божае прадвызначэнне. Парушэнне гэтых карэнных, радзінных сувязей не можа кампенсавацца ні матэрыяльным дабрабытам, ні прыгажосцю чужых краявідаў. Відаць, таму ў паэзіі Н. Арсенневай і М. Сяднёва так моцна адчувальныя еднасць з роднай зямлёй і народам, нясцерпная туга па страчанай Бацькаўшчыне.

Жыццёвы і творчы шлях яшчэ аднаго слыннага сына зямлі беларускай Аляксандра Баршчэўскага (Алесь Барскі) разглядае Яўген Адамовіч. Загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, паэт і даследчык, Алесь Барскі шмат зрабіў для развіцця нацыянальнай мовы і культуры. Кола яго навуковых інтарэсаў вельмі шырокае. Ім напісана шмат сур'ёзных навуковых прац, якія знайшлі прызнанне далёка за межамі Польшчы.

Аднак, па сведчанні Я. Адамовіча, галоўным сваім прызваннем Алесь Барскі лічыць паэзію, якую вызначае як "форму абавязку перад Айчынай". Праз аналіз канкрэтных твораў Я. Адамовіч вызначае асноўныя мастакоўскія інтарэсы паэта, якія суадносяцца з "малой" і "вялікай айчынай", мастацтвам, прыродай, каханнем. А якой мудрасцю, часам горкім гумарам прасякнуты яго афарызмы! Напрыклад: "Калі чую словы: беларускі нацыяналізм — шукаю лупу або бягу да мікраскопа".

Асобную старонку дзейнасці Алеся Барскага складае неардынарная, таленавітая публіцыстыка. Пісьменніка хвалююць многія нацыянальныя і агульначалавечыя пытанні, сярод якіх найбольшы клопат надаецца абуджэнню ва ўсіх беларусаў свету нацыянальнай самасвядомасці і годнасці.

Аб тым, што справа жыцця старэйшага пакалення беларускіх эмігрантаў не была марнай, сведчаць маладыя парасткі нацыянальна свядомых людзей, да якіх належыць Данчык (Багдан Андрусышын). Аб ім вядзе гаворку Анатоль Сабалеўскі. Адным з самых дзіўных феноменаў беларускага замежжа з'яўляецца тое, што, апынуўшыся на чужыне, нашы суайчыннікі не толькі зберaглі родную мову і тым самым захавалі сябе як нацыянальную супольнасць, але і выхавалі ў сваіх дзяцей і ўнукаў святое пачуццё любві да радзімы, усведамленне сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі. Менавіта гэтыя пачуцці працінаюць усю творчасць Данчыка, які нарадзіўся ў Нью-Йорку, але генетычна ўвабраў ад сваіх продкаў вялікую прыхільнасць да роднага слова, гісторыі, культуры.

Актыўны ўдзельнік шматлікіх імпрэз, Данчык як спявак і мастацкі чытальнік вельмі спрыяе пашырэнню беларускай справы за мяжой, папулярызацыі нацыянальнай культуры на амерыканскім кантыненце.

Другі раздзел кнігі прысвечаны навуковым доследам у галіне беларускай культуры і мастацтва, якія друкаваліся ў выглядзе асобных манаграфій або на старонках перыядычных выданняў.

Віктар Шматаў аналізуе замежную мастацтвазнаўчую Скарыніяну. Гістарычна склалася так, што працэс беларусізацыі, які актыўна распачаўся ў 20-я гады, быў гвалтоўна перапынены. Як справядліва заўважае аўтар, лінія мастацтвазнаўчага скарыназнаўства, якая развівалася амаль 200 гадоў, у 30-я гады ў Савецкай Беларусі была прымусова абарвана. Таму асабліва важна, што беларускія навукоўцы за мяжой запаўнялі гэты прагал. Падрабязна спыняецца В. Шматаў на грунтоўных артыкулах Г. Піхуры і С. Брагі (Вітаўт Тумаш), у якіх выказана шмат прынцыпова новых знаходак і меркаванняў. На думку аўтара, яны не толькі ўзбагацілі, але фактычна адрадзілі айчынную Скарыніяну.

Шмат цікавага можна даведацца і з артыкула Уладзіміра Мамонькі, дзе разглядаецца праца Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Аўтар падрабязна спыняецца на публікацыях "Запісаў", прысвечаных беларускай культуры і мастацтву: "Беларуская музыка" Міколы Куліковіча, "Важнейшыя моманты культурных працэсаў Беларусі" Р. Максімовіча, "Вытокі беларускага мастацтва" Уладзіміра Сядуры і інш. Многія матэрыялы "Запісаў" знаёмяць з культурна-асветным жыццём беларускай эміграцыі. Ёсць тут публікацыі па гістарыяграфіі, літаратуры, мове. Нельга не пагадзіцца з У. Мамонькам, што далейшае паглыбленае вывучэнне замежных выданняў будзе спрыяць агульнаму ўзбагачэнню беларускай навукі і культуры.

Спыніўшыся на актывізацыі ўзаемапазнання культур польскага і беларускага народаў, Людміла Маленка аналізуе матэрыялы беластоцкай газеты "Ніва" аб дэкаратыўна-прыкладным і выяўленчым мастацтве.

Аўтар дакладна абгрунтоўвае, што менавіта гэтыя галіны мастацкай творчасці адыгрываюць выключную ролю ў захаванні і выяўленні нацыянальнай свядомасці, у вызначэнні агульначалавечай прыроды і духоўнага жыцця народа. У артыкуле Л. Маленкі можна знайсці цікавыя звесткі аб розных відах народнага традыцыйнага мастацтва — вырабах з саломкі, "крашанках", пляценні з лазы, ракіты і інш. Разглядае яна і публікацыі польскіх мастацтвазнаўцаў аб мастаках і скульптарах — беларусах, якія жывуць у Польшчы (Лёнік Тарасевіч, Мікола Давідзюк, Уладзімір Наўмюк), і аб мастаках Беларусі (Леанід Шчамялёў, Мікола Купава). Л. Маленка прыходзіць да высновы, што мастакі-беларусы ў Польшчы, асэнсоўваючы культуру іншых народаў, захоўваюць "сваю іншасць, сваю непадобнасць". Галоўным для іх з'яўляецца "ўсведамленне і разуменне нацыянальнай традыцыі".

Фальклор Беласточчыны — у цэнтры ўвагі аўтараў трэцяга раздзела кнігі. Арсень Ліс даследуе каляндарна-абрадавыя творы (калядкі, шчадроўкі, вяснянкі, валачобныя песні, юраўскія, купальскія, жніўныя), а Анатоль Фядосік — радзінна-хрэсьбінную і вясельную паэзію. Абодва даследчыкі разглядаюць фальклор як прыналежнасць да духоўнай культуры беларускага этнасу ў Польшчы і адначасова прасочваюць яго непарыўныя сувязі з народнапаэтычнай творчасцю Беларусі. Бо, як справядліва сцвярджае А. Ліс, фальклор Беласточчыны з'яўляецца часткай "адзінага нацыянальнага мацерыка народнай культуры".

Кніга "Культура беларускага замежжа" вяртае з небыцця раней забароненыя імёны таленавітых беларусаў, чыя спадчына становіцца нашым духоўным набыткам. Пакуль што ўвага аўтараў засяроджана на беларускай дыяспары ЗША і Польшчы. У наступных выданнях геаграфія будзе пашырацца. Падрыхтавана да здачы ў вытворчасць другая кніга серыі, вядзецца збор матэрыялаў для трэцяй.

Другая кніга ўключае папярэднія раздзелы "Постаці" і "Выданні". У іх размова пойдзе аб трагічным лёсе паэтаў Алеся Салаўя, Хвёдара Ільяшэвіча, кампазітара Міколы Куліковіча-Шчаглова, працягнецца гаворка аб удзеле Данчыка ў культурным адраджэнні Беларусі, будуць разгледжаны творчасць пісьменнікаў-беларусаў у Польшчы і асобныя публікацыі беластоцкага "Беларускага календара" і газеты "Беларус". Уводзіцца ў кнігу новы раздзел "Асяродкі", які пазнаёміць чытача з дзейнасцю кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і з жыццём клііўлендскага беларускага цэнтра "Полацак".

Выхад у свет першай кнігі "Культура беларускага замежжа" стаў важнай з'явай грамадскага і культурнага жыцця Беларусі, засведчыў, што скончылася эпоха канфрантацыі, процістаяння і, па вызначэнню А. Сабалеўскага, наспеў "час духоўнага паяднання".

**Тамара ГАРОБЧАНКА.**

# ГАЛЬЯШ ПЕЛЬГРЫМОЎСКІ І ЯГО ПАЭМА "ГУТАРКА Ў МАСКВЕ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ёсць падставы меркаваць, што без удзелу Гальяша Пельгрымоўскага не магла абыходзіцца падрыхтоўка Статута Вялікага Княства Літоўскага, апублікаванага ў 1588 годзе, — аднаго з найвыдатнейшых еўрапейскіх помнікаў дзяржаўна-палітычнай думкі той эпохі. Вядома наогул, што сакратары розных рангаў практычна рыхтавалі дакументы для тых асоб ці інстанцый, пры якіх яны займалі свае пасады.

А ў Гальяша Пельгрымоўскага тым часам з'яўляліся ўсё новыя і новыя канкрэтныя даручэнні. То ён быў каралеўскім камісарам у Лівоніі (1588 год), то ад імя караля правяраў стан каралеўскіх маёнткаў у той самай Лівоніі. У 1597 годзе ад Ашмянскага павета з'яўляўся ўдзельнікам, а заадно і маршалкам шляхецкага з'езда ў Слоніме, а затым прымаў удзел у агульным сейме Рэчыпаспалітай. І гэтым пералік ягоных абавязкаў і даручэнняў не вычэрпваецца.

Мы павінны звярнуць асаблівую ўвагу на дыпламатычную місію, якая выпала на долю Гальяша Пельгрымоўскага ў 1600—1601 гадах. Ён з'яўляўся сакратаром вялікага пасольства, якое пад кіраўніцтвам Льва Сапегі накіравалася ў Маскву для перагавораў з Барысам Гадуновым з мэтай заключэння вечнага міру. Выехаўшы 27 верасня 1600 года з Оршы, дэлегацыя прыбыла ў Маскву 16 кастрычніка. Аднак сустрэча з царом і самі перагаворы на працягу доўгага часу адкладваліся з прычыны рэальнай ці ўяўнай хваробы цара. І толькі 11 сакавіка 1601 года было падпісана пагадненне аб дваццацігадовым міры. Гальяш Пельгрымоўскі разам з царскімі дзячкамі складаў і рэдагаваў тэкст дакумента.

Знаходзячыся ў Маскве, ён уважліва сачыў за ўсім, што адбывалася навокал, запісваў свае ўражанні і затым склаў падрабязны дыярыуш той дыпламатычнай місіі. У XIX стагоддзі дыярыуш быў знойдзены ў пераплёце нейкай кнігі і ў 1846 годзе апублікаваны ў Гродне пад загалоўкам: "Пасольства Льва Сапегі ў 1600 годзе ў Маскву паводле дыярыуша Гальяша Пельгрымоўскага, сакратара пасольства, з рукапісу, выпадкова знойдзенага, Уладзіславам Трэмбіцкім апісанае" (на польскай мове). У дыярыушы былі і беларускія ўстаўкі: праект дагавора паміж Рэчпаспалітай і Маскоўскай Руссю, пералік падарункаў ад кіраўнікоў дэлегацыі рускаму цару і ягонаму сыну, тэксты выступленняў Льва Сапегі і Гальяша Пельгрымоўскага ў прысутнасці цара.

Выданнем Трэмбіцкага карыстаўся П. Шпілеўскі ў сваёй публікацыі "Описание посольства Льва Сапеги в Москву в 1600 году" ("Журнал Министерства народного просвещения", 1860, N 12). Беларускія тэксты ён часткова пераклаў на рускую мову, а асноўную частку перапісаў рускім алфавітам (у арыгінале яны запісаны лацінкай), дапусціўшы пры гэтым розныя праўкі і скажэнні.

Гальяш Пельгрымоўскі яшчэ раз апісаў тое падарожжа ў Маскву, але ўжо ў вершаванай форме ў 1603 годзе. Гэты варыянт таксама напісаны на польскай мове, але ёсць там і руска-беларускія фразы.

Літаратурную творчасць Гальяш Пельгрымоўскі пачаў у 1583 годзе публікацыяй на лацінскай мове панегірыкаў у гонар гетманаў Мікалая і Крыштофа Радзівілаў. Затым з'явіліся жыццеапісанні 36 старажытных военачальнікаў, каралёў і іншых дзеячаў, вядомых са Старога запавету (1585 год), панегірыкі ў гонар Тэадора Скуміна Тышкевіча (1586 год), Альбрыхта Радзівіла і іншыя творы.

Для гісторыі беларускае літаратуры найбольшую каштоўнасць уяўляе напісаная на беларускай і польскай мовах паэма "Гутарка аднаго паляка з маскалём на маскоўскім замку ў 1601 годзе" (загаловак даецца на польскай мове). Для зручнасці можна назваць твор "Гутарка ў Маскве".

Пра паэму не ведаў ні адзін з польскіх даследчыкаў творчасці пісьменніка: ні Аляксандр Брукнер, ні аўтар артыкула ў "Польскім біяграфічным слоўніку" Адам Пшыбось, ні нават Кароль Эстрэйхэр, аўтар фундаментальнай бібліяграфіі польскай літаратуры. Рукапіс твора (пазначаны словам "копія") захаваўся ў Познані ў Бібліятэцы імя Рачынскіх. А ўпершыню "Гутарка ў Маскве" была апублікавана ў беларускім часопісе "Спадчына" (Мінск, 1992, N 4).

Паэма сваім зместам звязана з перагаворамі, якія адбываліся ў Маскве з кастрычніка 1600 па сакавік 1601 года. "Гутарка ў Маскве" — гэта не новы варыянт рэпартажу, а мастацкі твор, напісаны на аснове тых падзей. Значэнне паасобных сцэн у паэме становіцца зразумелым толькі ў святле дыярыушаў, што якраз дае падставу лічыць іх творамі аднаго і таго ж аўтара.

У гэтых помнікаў ёсць і агульныя рысы, ёсць і адрозненні. У той час, калі дыярыушы ўяўляюць сабою ў нейкай меры храналагічны летапіс падзей — падарожжа, сустрэч дзяржаўных дзеячаў, перагавораў, дыспутаў, спрэчак, назіранняў і гэтак далей, то "Гутарка ў Маскве", як мастацкі твор, раскрывае ўражанні, а заадно — сістэму поглядаў не кіраўнікоў, не тых, хто меў права вырашаць усе справы, а звычайных прадстаўнікоў двух бакоў. Сама гутарка вядзецца па пытаннях агульных і прыватных, звязаных і не звязаных з той дыпламатычнай місіяй, пра якую чытач канкрэтна нічога не даведваецца.

Уяўляе цікавасць сам спосаб вядзення дыялога, калі ўдзельнікі пачынаюць здалёк, з разведкі, як быццам выклікаючы адзін аднаго на шчырыя выказванні. Калі паляк (палякам ён называецца ў аўтарскім тэксце, хоць быў прадстаўніком двара літоўскага пасла і меў не польскае імя Іван) паставіў пытанне занадта непасрэдна: "Давноль тута чы долго да што работаешь?" — то асцярожны Ігнат адразу ж яго прытрымаў: "Не можно тобе ведат о всім, што пытаеш". І калі Іван зноў неўзабаве паспрабаваў выказацца занадта непасрэдна, але і не зусім выразна, баярын яго папярэдзіў: "Не знаю, што говорыш, мов ты по-нашому".

Ігнат, як сапраўдны дыпламат, вынаходлівы ў сваіх фармуліроўках і адказах. На пытанне: "Здоровлі ваш Господар чыль пак ешчэ болен?" — Ігнат дае адказ з багатым падтэкстам: "Дай Господ бы здоров был, я су в том не волен". А як вядома з дыярыушаў Пельгрымоўскага і з намёкаў у тэксце "Гутаркі ў Маскве", перагаворы паміж дэлегацыямі зацягваліся з прычыны хваробы цара. Так ва ўсякім выпадку апраўдваліся гаспадары. Асцярожны баярын, выказваючы пажаданне здароўя цару, адначасова паказвае, што сам ён ні ў чым не вінаваты і што тая хвароба ніяк не залежыць ад ягонай волі. І тут разумей сабе, як хочаш.


161
ROZMOWA

Паказальным з'яўляецца характар разважанняў аб рэлігіі — свабодных, падчас з'едліва гумарыстычных. Для баярына існуе толькі адна рэлігійная праўда, адзін закон: хрысціцца так, як гэта робяць праваслаўныя, складваючы адпаведным чынам пальцы і пераносячы іх з правага на левы бок. Да таго ж ён ніяк не можа сабе ўявіць папа без барады: "Бо негодно без бород штоб попамі былі". Адказ літоўскага прадстаўніка (калі б для неба патрэбна была ўсяго толькі барада, то найбольш надзейна трапіў бы туды доўгабароды казёл) — гэта ўжо выяўленне светаадчування і светапогляду чалавека эпохі Рэнесанса. Рэлігія перастае быць чымсьці святым і недатыкальным, а гаворка пра тое, што казёл мог бы трапіць у рай, сама па сабе выяўляе свабоду абыходжання з царкоўнымі паняццямі. Аўтар паэмы Гальяш Пельгрымоўскі быў кальвіністам і таму мог сабе дазволіць так пісаць.

"Гутарка ў Маскве" сведчыць аб тым, што прайшоў ужо час, калі на зямныя справы глядзелі толькі праз прызму свяшчэннага пісання і калі Біблія лічылася крыніцай усёй жыццёвай мудрасці. У самім творы спасылкі робяцца на нейкія вядомыя ўдзельнікам дыскусіі прыказкі, гісторыі, паняцці і нават на летапіс ("Прочытай лятопісцов", "Чувал-лі Ігнат пословіцу колі омыліт лазня Пашка о Міколі" і інш.).

Героі ўсімі сваімі думкамі і разважаннямі адарваліся ад неба і спусціліся на грэшную зямлю з яе канкрэтнымі праблемамі — агульнадзяржаўнымі, палітычнымі ці проста чалавечымі. Секулярызацыя думкі, народжаная эпохай Рэнесанса, зрабіла цэлы пераварот у грамадскай свядомасці, у светаўспрыманні людзей. Вызначаныя ў паэме адносіны да рэлігіі — якасна новая з'ява, і яе цяжка было б сабе ўявіць нават у такую недалёкую эпоху Францішка Скарыны або Сымона Буднага.

"Гутарка ў Маскве" — адзін з твораў, звязаных з цэлым этапам руска-польска-беларускіх палітычных і дыпламатычных узаемаадносін другой палавіны XVI — пачатку XVII стагоддзяў, калі перыяды перагавораў аб дзяржаўнай уніі або ўзвядзенні на польскі трон рускіх цароў ці, наадварот, польскіх каралёў на рускі — змяняліся перыядамі працяглых войнаў. Гэтыя падзеі выклікалі да жыцця адпаведную літаратурна-мастацкую і дзелавую пісьменнасць (мемуары, пасланні, праекты дагавораў, данясенні) на беларуска-рускай, польскай, лацінскай мовах. Яна яшчэ далёка не ўся трапіла ў поле зроку даследчыкаў і не асэнсавана так, як таго заслугоўвае.

Паэма Гальяша Пельгрымоўскага незвычайна багатая сваім зместам. Яна раскрывае грамадскую свядомасць найбольш адукаванай часткі, можна сказаць, інтэлектуальнай эліты Вялікага Княства Літоўскага на рубяжы XVI і XVII стагоддзяў. Твор ахапіў істотныя праблемы свядомасці чалавека: ягоныя адносіны да рэлігіі, уяўленні аб палітычнай сітуацыі ў тагачасным свеце, аб узаемаадносінах дзвюх магутных дзяржаў таго часу — Рэчыпаспалітай і Маскоўскай Русі, іх ролі ў свеце і нават аб тым, што мы сёння называем правамі чалавека. Прытым вельмі выразна — як быццам гэта пісалася ў нашы дні! — адасабляецца, калі нават не супрацьпастаўляецца ментальнасць баярына, пазбаўленага элементарнага права на ўласную думку, самастойнае меркаванне ва ўмовах неабмежаванай самадзяржаўнай сістэмы і, з другога боку — прадстаўніка таго грамадства, дзе чалавек мае права на свабоду думкі, на адкрытае выяўленне сваіх поглядаў.

Гэта быў дыялог прадстаўнікоў двух светаў, дзвюх грамадскіх сістэм, асабліва добра зразумелы ў сённяшнюю эпоху, з улікам нашых апошніх дзесяцігоддзяў. Усё гэта ляжыць на паверхні, выяўляецца непасрэдна ў змесце, у дыялогах, у аўтарскай пазіцыі, засведчанай выразна.

Але каштоўнасць паэмы заключаецца не толькі ў гэтым. У ёй — тут ужо незалежна ад волі аўтара — адбіліся выразныя прыкметы моўнай эвалюцыі ці нават дэфармацыі, напрамак таго развіцця, якое прадвызначалася для нашай мовы пад уздзеяннем шматлікіх знешніх фактараў.

Пасля Францішка Скарыны прайшло менш чым стагоддзе. Зусім нядаўна, у 1588 годзе, з'явілася трэцяя рэдакцыя Статута Вялікага Княства Літоўскага, які, маючы сілу закона, абавязваў у дзяржаўных установах карыстацца "рускай" мовай. Аднак і сам аўтар паэмы — пісар Вялікага Княства Літоўскага, і ягоны герой, які знаходзіцца воляю лёсу ў Маскве, лічаць асноўнай для сябе мову польскую, хаця пакуль што аднолькава свабодна карыстаюцца і тою, якую называюць "рускай". Беларуская мова яшчэ трымалася па інерцыі, але ўсё больш траціла перспектыву як мова грамадска-палітычнага жыцця, а ўслед за гэтым — як мова культуры і літаратуры.

Для адукаванай шляхты Вялікага Княства Літоўскага яна пакуль што яшчэ заставалася жывою, сваёй, але ў грамадскім жыцці ўсё больш моцныя пазіцыі заваёўвала польская. У часы Францішка Скарыны такога нават нельга было б сабе ўявіць.

Калі ў афіцыйных дакументах, адрасаваных рускаму цару, ягонаму сыну і баярам, Гальяш Пельгрымоўскі яшчэ карыстаўся сваёй традыцыйнай — дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім мовай, то ў сваіх успамінах, у мастацкім творы ён як быццам трапляе на раздарожжа. Інерцыя і стыхія той мовы, якую ён чуе ў сябе на радзіме ўсюды, яшчэ не дазваляе яму забыцца пра яе. Але пасля таго, як у 1572 годзе з днём смерці Жыгімонта II Аўгуста закончыла сваё існаванне дынастыя Ягелонаў, звязаная сваім паходжаннем, сваімі карэннямі з Вялікім Княствам Літоўскім, а на троне аб'яднанай Рэчыпаспалітай засядалі то француз Генрык Валуа, то былы ваявода сяміградскі Стэфан Баторый, то швед Жыгімонт III Ваза, пры каралеўскім двары беларуская мова хутка губляла сваё колішняе значэнне.

У паэме аднолькава свабодна адчуваюць сябе абедзве мовы, але ўжо кірыліцу замяніла лацінка. І для аўтара прадстаўнік літоўскага пасольства Іван ужо з'яўляецца палякам.

"Гутарка ў Маскве" ўвасобіла ў сабе шматлікія праблемы пераломнай эпохі ў жыцці беларускага народа — той эпохі, калі Вялікае Княства Літоўскае пачало ўсё больш арганічна ўрастаць — у межах адной дзяржавы — у чужародны палітычны і культурна-рэлігійны арганізм, паступова і незаўважна трацячы ўсведамленне сваёй адметнасці, а ўслед за гэтым — права на вырашэнне сваіх уласных дзяржаўных, палітычных, культурных, рэлігійных спраў — словам, уласнага лёсу.

Як мастацкі дакумент эпохі "Гутарка ў Маскве" павінна заняць у гісторыі нашае культуры і літаратуры унікальнае месца. Яна ўзвышаецца над усім, што пакінуў нам пачатак XVII стагоддзя ў літаратурна-мастацкай творчасці.

Гальяш Пельгрымоўскі не спыняў ні літаратурнай творчасці, ні палітычнай дзейнасці да самай смерці. У студзені 1602 года ён прысутнічаў на цырымоніі прыёму каралём Жыгімонтам III у Вільні маскоўскага пасольства. Там вырашалася справа ратыфікацыі маскоўскага дагавора. У гэтым самым годзе становіцца маршалкам Літоўскага трыбунала.

Памёр у 1604 годзе. Дакладная дата не ўстаноўлена. Вядома толькі, што яшчэ 18 жніўня 1604 года прымаў удзел у пасяджэнні трыбунальскага суда.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**НА ЗДЫМКУ:** адзін з аркушаў паэмы "Гутарка ў Маскве".

*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# МІГРАЦЫЯ Ў ПРЫРОДЗЕ

Пасля зімы з далёкіх падарожжаў вярнуліся на радзіму птушкі. І гэта заўсёды для людзей радасць. Невялікімі бязладнымі чародамі ляцяць качкі, клінам або вуглом — гусі, вялікімі цёмнымі хмарамі — берасцянкі і іншыя дробныя птушкі. Вярнуліся ў родныя краі белыя буслы. У паветры з раніцы да позняга вечара і нават у глыбокую ноч гучыць птушыны гоман.

Нікому не раскажуць птушкі, адкуль яны прыляцелі. Але ёсць знаўцы, якія называюцца арнітолагамі і вывучаюць паводзіны птушак. Дзякуючы кальцаванню яны высветлілі, што ластаўкі, буслы, чаплі, якія летам жывуць у Беларусі, на зіму адлятаюць у Афрыку і зімуюць у Конга, Радэзіі, Эфіопіі... Нашы шпакі зіму праводзяць на ўзбярэжжы Міжземнага мора: у Італіі, Францыі, Іспаніі, а таксама ў Паўночнай Афрыцы, у Тунісе, Алжыры, Марока. Шэрая мухалоўка знойдзена на зімоўцы ў Партугаліі, гракі — у Бельгіі, Галандыі, Германіі, а маленькая пеначка адлятае нават у Індакітай.

Што ж за з'ява "міграцыя"? Самую дакладную думку маюць на гэты конт вучоныя, якія займаюцца шматгадовымі даследаваннямі. Пра міграцыі птушак пішуць нават паэты, а вось што вядома пра міграцыі рыб, матылькоў, вавёрак? Цікава, што мігрыруюць нават жабы і лягушкі.

Неяк вясной у адной з брэсцкіх газет з'явілася нататка пад назвай "Жабы-вандроўніцы". У ёй паведамлялася, што жывая стужка жаб перагарадзіла дарогу пры ўездзе ў вёску на Брэстчыне. Іх было каля тысячы, і яны вельмі спяшаліся. Здавалася, патоку не будзе канца. Ён пачынаўся недзе ля ўскрайку далёкага лесу, перасякаў поле, дарогу і цягнуўся да хмызняку. Не дачакаўшыся, пакуль пройдзе гэтае "балотнае войска", машыны паварочвалі назад і ўязджалі ў вёску з другога боку. Якая прычына такога масавага перамяшчэння жаб і лягушак?

Давайце бліжэй пазнаёмімся з гэтымі істотамі, якія атрымалі назву земнаводных, або амфібій. Яны дзеляцца на дзве групы: хвастатыя (трытоны) і бясхвостыя (жабы і лягушкі).

Усе земнаводныя расплоджваюцца ў вадзе, дзе самкі адкладваюць ікру. Прыкладна 300 мільёнаў гадоў таму жабы выйшлі з вады на сушу, але да гэтага часу яны, як і рыбы, адкладваюць ікру і дзеля гэтага зноў вяртаюцца ў ваду. Вы звярталі ўвагу на апалонікаў? Яны хутчэй нагадваюць малькоў рыб, чым сваіх бацькоў. Кожны арганізм у сваім развіцці коратка паўтарае ўсе стадыі, якія прайшлі яго далёкія продкі. Вось лягушка "ў дзяцінстве" і нагадвае рыб, але з цягам часу ў апалонікаў паяўляюцца канечнасці.

Вясной у вадзе, на нагрэтых неглыбокіх месцах, сярод травы, можна ўбачыць слізкія камякі жабурыння лягушак. Кожная лягушка адкладвае ад 4 да 10 тысяч ікрынак. Праходзіць зіма, наступае вясновае цяпло, і амфібіі, якія зімуюць на сушы, імкнуцца да вадаёмаў. Часцей за ўсё такія перамяшчэнні адбываюцца незаўважна, як і непрыкметныя асеннія вандроўкі да месцаў зімовак. Але прамое ўмяшанне чалавека ў прыроду (асушэнне балот, будаўніцтва дарог) парушае біярытмы земнаводных, якія складваліся стагоддзямі.

А цяпер пра жаб. Уявіце сабе, як жабы пасля зімоўкі спяшаюцца да свайго вадаёма, дзе яны "нарадзіліся", і раптам на іх звычайным шляху ўзнікла перашкода — высокі насып пабудаванай аўтадарогі. Што ім рабіць? Жабы пачынаюць згрувашчвацца каля перашкоды, не адважваючыся яе пераадолець. Але інстынкт размнажэння мацнейшы за страх, і праз нейкі час натоўп земнаводных вялікай масай пераадольвае перашкоду і дабіраецца да вадаёма. Відавочна, на Брэстчыне назіралася такая ж масавая міграцыя лягушак, якія спяшаліся да вадаёма.

А вось яшчэ адно цікавае паведамленне з Казахстана — пра вялікі затор легкавых і грузавых аўтамашын па дарозе ў Алма-Ату. Прычынай непрадбачанага прыпынку сталі гадзюкі. Жывая стужка гадзюк шырынёй каля 20 метраў цягнулася па дарозе ў горы. Чым жа выклікана такая масавая міграцыя? Вучоныя Акадэміі навук Казахстана тлумачаць гэта засушлівым надвор'ем. Падобнае нашэсце ядавітых гадзюк было летам 1979 года ў Іране у Мунганскім стэпе. Прычынай масавага нашэсця гадзюк была засуха. А хто яшчэ з амфібій і рэптылій робіць міграцыйныя перамяшчэнні? Толькі марскія чарапахі!

Нягледзячы на тое, што ўсё жыццё гэтых жывёл праходзіць у водным асяроддзі, раз у два ці тры гады наступае такі час, калі пад уплывам інстынкту падоўжання роду дзесяткі тысяч чарапах адначасова накіроўваюцца да берага, каб адкласці яйкі. Яны здольныя пераадольваць вялікія адлегласці і мігрыруюць звычайна туды, дзе самі з'явіліся на свет. Да прыкладу, зялёныя чарапахі, якія жывуць у экватарыяльных водах Атлантычнага акіяна, ад мыса Рэсфі на бразільскім узбярэжжы накіроўваюцца ў доўгі шлях да вострава Узнясення, які знаходзіцца ад Бразіліі на адлегласці больш за 2 000 кіламетраў, каб адкласці там на пясчаных пляжах свае яйкі. Інкубацыйны перыяд цягнецца ад 40 да 60 дзён. І хаця чарапашкі вылупліваюцца са сваіх абалонак у розныя дні, яны не адразу пакідаюць сваё гняздо, а ляжаць у пяску глыбінёй да метра, пакуль не вылупяцца ўсе астатнія, і толькі тады, як па сігналу, усе разам разварушваюць пясок і найкарацейшым шляхам дабіраюцца да мора. Ім не перашкаджае ні дождж, ні хмарнасць, ні дзень, ні ноч. Дасягнуўшы вады, чарапахі па адной плывуць у Бразілію. Як жа зялёныя чарапахі дабіраюцца да вострава Узнясення, як яны арыентуюцца ў прасторах акіяна?

**Аляксандр КУРСКОЎ.**

(Працяг будзе).



**На працягу некалькіх дзён у Мінску рэжысёр Генадзь Палока здымаў фільм "Вяртанне браняносца". Фінансуюць яго Беларускі фонд дапамогі развіццю культуры і Камітэт па кінематаграфіі Расійскай Федэрацыі. Акрамя Беларусі, здымкі праходзілі таксама ў Маскве і Адэсе. Генадзь Палока — вядомы стваральнік фільмаў "Рэспубліка ШКІД", "Інтэрвенцыя", "Наша прызванне", "Я — важаты фарпоста" і іншых.**

**Дзеянне фільма "Вяртанне браняносца" праходзіць у дваццатыя гады. У Мінску здымаліся эпізоды, калі тысячы людзей выйшлі на першамайскую дэманстрацыю.**

**НА ЗДЫМКУ: у час здымкаў фільма "Вяртанне браняносца" ў Мінску.**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**

## СУМЕСНЫ СПЕКТАКЛЬ

На сцэне ДАВТа Беларусі быў паказаны спектакль "Дон Кіхот". Дзіўнага тут, на першы погляд, нічога няма, бо гэта не прэм'ера. Але справа ў тым, што пастаноўку ажыццявілі сумесна беларускія і турэцкія артысты.

Галоўныя партыі ў спектаклі выканалі вядучыя артысты тэатра балета Стамбула Хулія Аксулар і Актай Керасціжы.

Супрацоўніцтва двух тэатраў стала магчымым дзякуючы нядаўнім гастролям артыстаў беларускага балета ў Турцыю пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева, менавіта тады было заключана пагадненне паміж тэатрамі.

## МУЗЕЙ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

У цэнтральнай бібліятэцы Слоніма адкрыўся музей беларускай кнігі. Матэрыялы экспазіцыі прысвечаны дзейнасці Ф. Скарыны, Я. Коласа, Я. Купалы, іншых літаратараў і асветнікаў Беларусі. Тут іх партрэты, творы, у тым ліку замежныя выданні, успаміны сучаснікаў і сяброў.



**На Бярэзіне.**

**Фота У. ПЯТРОВА.**

## *СПОРТ*

ФУТБОЛ. Да завяршэння чэмпіянату Рэспублікі Беларусь засталося некалькі тураў, а пераможца вызначыўся датэрмінова. Гэта мінскае "Дынама". Цяпер сталічныя футбалісты будуць чакаць афіцыйных турніраў на міжнародных спаборніцтвах. У першую чаргу — Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў.

ШАХМАТЫ. Усяго паўачка не хапіла беларускаму гросмайстру Барысу Гельфанду для перамогі на міжнародным турніры ў Мюнхене. Але і другое месца — безумоўна поспех нашага шахматыста. Першае заняў рыжанін Аляксей Шыраў.

ГАНДБОЛ. Працягваюцца адборачныя гульні першынства кантынента сярод жанчын. Зборная Беларусі апошні матч правяла з камандай Славакіі. Гульня завяршылася ўнічыю — 24:24.

ТЭНІС. На міжнародным турніры з серыі "Вялікі шлем" "Ролан Гарас", які праходзіць у Францыі, удала выступае мінчанка Наталля Зверава. У адзіночным разрадзе яна перамагла ўжо некалькі саперніц. Але спецыялісты прадказваюць ёй перамогу не тут, а ў парным разрадзе. Бо са сваёй партнёршай амерыканкай Д. Фернандэс яна, як правіла, займае на турнірах толькі першыя месцы. І цяпер гэтыя выдатныя спартсменкі ўжо выйшлі ў чвэрцьфінал.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. У Германіі на міжнародных спаборніцтвах па скачках у вышыню мінчанка Таццяна Шэўчык заняла трэцяе месца.


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 821. Падпісана да друку 7..06.1993 г.**